НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 3 (936) 20 студзеня 2016 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. АднОўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## «Новым лідарам у свеце мусіць стаць Усходняя Еўропа»



Футуролаг і знаны бізнэсовец Аляксандр Аніскевіч пра будучыню Беларусі. Старонка 4.

## Не ўсё ў жыцці апошні раз!

Дык падпісвайся на «Нашу Ніву». Старонка 2.

# Пара мяняць курс

## Прагнозы эканамістаў: будзе рост, але не той




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У 2008 годзе за даляр давалі 2100 рублёў. У 2010-м — 3000. У 2011-м — 9000. У снежні 2014-га рубель упаў да 14500. А ў студзені 2016-га перакрочыў мяжу 20000.

У такіх умовах няма сэнсу збіраць грошы ў рублях. Няма ніякага аўтарытэту ў рубля. А ўсе лічбы эканамічнага росту сцірае інфляцыя.

За адзін тыдзень, з 11 да 18 студзеня, афіцыйны курс амерыканскай валюты вырас з 18750 да 20130 рублёў, дабаўляючы 200—300 рублёў за дзень. Улады не спяшаюцца агучваць свае планы стабілізацыі курса і эканомікі агулам. Але ўжо сёння відаць, што нават бюджэт краіны, звярстаны з разліку на сярэднегадавы курс даляра 18600 рублёў, ужо неактуальны.

Былы старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч мяркуе, што ніякага антыкрызіснага плана ва ўладаў няма. «Такога імклівага падзення рубля, ВУП і прыбыткаў насельніцтва можна было б пазбегнуць, — сказаў Багданкевіч «Нашай Ніве», — калі б мы дамовіліся з МВФ, калі б улады агучылі ўцямную стратэгію па выхадзе з крызісу. Але гэтага няма».

На думку эканаміста, рубель і эканоміка будуць падаць далей. «У горшым варыянце я чакаю курса ў 30 тысяч да канца года. Улады, я мяркую, вымушаныя будуць пайсці на адміністрацыйныя захады — абмяжоўваць сам гандаль на валютным рынку, у абменніках. Бо я не бачу, каб яны вырашалі праблемы інакш», — падсумаваў Баданкевіч.

З ягоным прагнозам што да 30 тысячаў рублёў за даляр не пагаджаецца старэйшы фінансавы аналітык «Альпары» Вадзім Ёсуб, але таксама адзначае, што і падставаў для аптымізму няма. «Канкрэтных лічбаў сёння не дасць ніхто, бо на курс уплывае цэлы шэраг вонкавых і ўнутраных чыннікаў. Гэта і падзенне цаны на нафту, і падзенне расійскага рубля. Але я б асабліва адзначыў няўдалы дэкрэт №7, які зрабіў непрыцягальнымі ўмовы банкаўскіх дэпазітаў, і людзі пачалі іх забіраць, купляючы за гэтыя грошы валюту», — сказаў Ёсуб.

Адзінае, што можа нас выратаваць, паводле эканаміста, гэта чаканы крэдыт ад МВФ. «Калі ўлады здолеюць дамовіцца пра крэдыт, то гэта дапаможа стабілізаваць курс, запаволіць ягонае падзенне. Але нават крэдыт не дасць адскоку курса назад», — перакананы аналітык.

І трэці эканаміст Зміцер Крук, якога мы запыталіся пра курс рубля, прадказаў далейшы рост амерыканскай валюты. «На пачатак вясны, я мяркую, курс даляра будзе дзесьці 20—22 тысячы рублёў, напачатку лета я пашыру калідор да 24 тысяч рублёў. Але як будзе дакладна, сказаць цяжка. Калі нафта стабілізуецца на ўзроўні 30 даляраў за бараль, то і беларускі рубель завісне на ўзроўні 20 тысячаў за даляр, гэта калі не ўлічваць унутраных эканамічных праблем, якія таксама трэба развязваць. Прычын казаць, што ў перспектыве беларускі рубель умацуецца, — няма», — перакананы Зміцер Крук.

**Арцём Гарбацэвіч**

## Васілю Сёмуху — 80

«Фауст», «Сімпліцысімус», «Парфума» — дзякуючы яму шэдэўры сусветнай культуры загучалі па-беларуску. Той выпадак, калі перакладчык для развіцця мовы і ўзняцця культурнага тонуса нацыі зрабіў не менш, чым пісьменнікі.

Больш спадар Сёмуха не перакладае. Вочы не свецяць, вынік даўняга цукровага дыябету.

На 80-годдзе перакладчыка ў кнігарні «ЛогвінаЎ» сабраліся 3 дзясяткі вольных і міжвольных вучняў маэстра, а таксама людзі, якіх ён асвяціў сваёй усмешкай, сваім непаўторным гумарам. «Дазвольце запечатлець буську на вашай лапцы», — пад рогат прысутных заслужаны артыст Беларусі Віктар Скорабагатаў апісаў, як прыходы перакладчыка ў «Беларускую капэлу» сталі незабыўнымі для жаночай часткі калектыву.

Што да творчасці, то сакрэт спадара Сёмухі — у ягоным чуцці слова і звязанай са словам эмоцыі, а таксама ў каласальнай працаздольнасці.

Ягоных бацькоў закатавалі нацысты. Выгадавала будучага майстра слова цётка. Недзе там, у тым дзяцінстве, і склаўся геній.

Самы вялікі пераклад ён здзейсніў ужо быўшы на пэнсіі — «Біблію». Сам, адзін. Выдалі яе не за грошы царквы — за дочкаў і сынавы.

**Сяргей Гезгала**



Васіль Сёмуха з сынам Сяргеем і ўнучкай.

Віншавання ад кіраўнікоў краіны на адрас Васіля Сёмухі не паступіла. На жаль, улады працягваюць ігнараваць вялікіх творцаў, якія не задзейнічаны ў дзяржаўным механізме.

## Кірыл Руды: Будучыня

за пакаленнем, якое культывуе нацыянальную культуру, мову і суверэнітэт. Старонка 3.

## Справа прафесараў

У мінскім гарадскім судзе пачаўся разгляд справы выкладчыкаў БНТУ. Старонка 10.

### Рудольф Пішчала: жыццё і апала будаўніка Пішчалаўскага замка

Піша гісторык-архівіст Зміцер Дрозд. Старонка 12.

## Дукшта

Піша Зянон. Старонка 15.

# Жураўкоў: Школьная праграма павінна быць скарочана мінімум на 20—30%

Пра гэта міністр адукацыі заявіў у праграмным артыкуле.

«У базавай школьнай праграме неабходна скараціць як мінімум 20—30% інфармацыі і пераглядзець падыходы да выкладання матэрыялу, бо сучасная школьная праграма значна складанейшая, чым яна была ў 70—80-я гады мінулага стагоддзя», — напісаў Міхаіл Жураўкоў у артыкуле, апублікаваным на сайце «Советской Белоруссії».

Ускладненне праграмы пачалося ў 1990-х і працягваецца да гэтага часу. Па словах міністра, у школьнай праграме трэба пакінуць толькі самую важную і неабходную інфармацыю.



Стварэнне базавай праграмы трэба праводзіць паэтапна: спачатку адкінуць другарадны або немагчымы для вывучэння ў сярэдняй школе матэрыял (для дакладных навук адзін з галоўных арыенціраў і сёння — праграма савецкай школы другой паловы XX ст., адзначае Жураўкоў), а затым заняцца адборам інфармацыі, неабходнай для вывучэння ў школе. Пры гэтым трэба высветліць, што вывучаецца школьнікамі іншых краін, асабліва тых, дзе ўзровень сярэдняй адукацыі вельмі высокі.

Міністэрства рыхтуе новыя базавыя падручнікі, якія будуць змяшчаць сістэматызаванае выкладанне вучэбнага прадмета ў мінімальна неабходным аб'ёме, вызначаным адукацыйным стандартам і навучальнай праграмай. У якасці дадаткаў будзе прадстаўлены разнастайны матэрыял, якім можна карыстацца на занятках і ў працэсе самастойнай працы, адзначыў Жураўкоў.

**Не на правах рэкламы**




**У новай рэкламе «Альфа-банка» выкарыстоўваецца вобраз Янкі Купалы.**

## На выданне «Шэрлака Холмса» па-беларуску чытачы сабралі 62 мільёны рублёў

У зборніку 12 апавяданняў, у тым ліку знакамітая «Апошняя справа Холмса» пра прафесара Марыярці і Райхенбахскі вадаспад.

Ахвяраванні збіралі праз інтэрнэт. Уклаліся 100 чалавек. Усяго было сабрана 62 мільёны рублёў.

Прэзентацыя кнігі адбудзецца 25 студзеня ў кнігарні «Логвінаў» (пр. Незалежнасці, 37а). Пачатак а 19:00.

Першая кніга пра Холмса па-беларуску — «Прыгоды Шэрлака Холмса» — выйшла ў канцы 2014 года. Цяпер перакладчыкі працуюць над трэцяй кнігай, у якую ўвойдуць дзве аповесці пра знакамітага дэтэктыва.



**СМ**

## Праваслаўны святар з Жухавіч: «Калі рускі мядзведзь прачнецца, то месца будзе мала ўсім»

Сайт 1863x.com зрабіў падборку інтэрнэт-акаўнтаў праваслаўных святароў, якія служаць у храмах на захадзе Беларусі. Аўтар артыкула акцэнтаваў увагу на тым, што згаданыя святары РПЦ адкрыта падтрымліваюць ідэі г.зв. «рускага свету» і баевікоў «Наваросіі», пра што сведчаць іх допісы ў сацыяльных сетках. А сама РПЦ, паводле аўтара, служыць далейшай русіфікацыі беларускага народа.

Да аднаго з гэтых святароў, Віктара Рыбія, датэлефанавалася «Наша Ніва».

Віктар служыць у вясковым храме ў Вялікіх Жухавічах на Навградчыне. На сваёй старонцы «Укантакце» ён называе сябе — рускім, еўрапейцаў — підарасамі, а Абаму — дурнем.

Мы запыталіся ў яго, чаму ён так думае і як гэта суадносіцца з ягонай святарскай дзейнасцю.

«Краіна свабодная ў нас, кожны мае права выказаць свае погляды», — адказаў святар.

Чаму гей-парады атаясамліваюцца ў яго з усімі еўрапейцамі, святар не патлумачыў.

Таксама айцец Віктар змяшчаў на сваёй старонцы глумлівую карцінку, дзе мульцяшны паштальён Печкін прывозіць на Заходнюю Украіну «Груз-200».

«Гэта не глумленне зусім, — пераконваў святар. — Я сам з Данбаса».

«Але ці чулі вы пра «Наваросію» да 2014 года?» — спыталіся мы ў святара. Той адказаў, што не чуў, але, маўляў, «нічога, будзе» (Наваросія).

«Я вось што скажу: Расію не трэба дражніць, бо калі рускі мядзведзь прачнецца, то месца будзе мала ўсім», — падсумаваў ён.

Нагадаем, што раней «Наша Ніва» пісала, што на Гарадзеншчыне дзейнічаюць некалькі праваслаўных вайскова-патрыятычных клубаў для цяжкіх падлеткаў, дзе інструктарамі выступаюць прарасійскія псеўдаказакі.

**Арцём Гарбацэвіч**



## Сціісла

**Інспектар ДАІ выйшаў на сярэдзіну МКАД, яго збілі. Кіроўцу пасадзілі**

19 студзеня ў судзе Фрунзенскага раёна Мінска быў абвешчаны прысуд па справе аб наездзе на Мінскай кальцавой аўтадарозе на інспектара ДАІ. 24-гадовы кіроўца прызнаны вінаватым у парушэнні правілаў дарожнага руху, што пацягнула прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання па неасцярожнасці. Кіроўцу асудзілі на 2,5 года папраўчай калоніі. Таксама з яго спаганяць 200 млн рублёў.

Асаблівасць сітуацыі была ў тым, што інспектар сам выйшаў на сярэдзіну МКАД, каб спыніць іншую машыну. А гэты кіроўца не заўважыў даішніка, перастройваўся і збіў.

**Ва Украіне 46 чалавек памерлі ад грыпу**

Эпідэмія найбольш зачапіла памежныя з Беларуссю вобласці.

**Аргенцінскі турыст забыў жонку на бензакалонцы**

Сям'я з Аргенціны кіравалася дадому пасля аўтавандроўкі па Бразіліі.

Мужчына па імені Уолтар аплаціў паліва і зайшоў у туалет. Вярнуўшыся, ён не заўважыў, што жонка Клаўдыя, якая спала на заднім сядзенні аўто, прачнулася і выйшла на запраўку купіць пячэння. У машыне таксама сядзеў 14-гадовы сын, але ён быў заняты гульнёй на смартфоне і таксама не звярнуў увагі, што мамы няма. Аргенцінка спрабавала патэлефанаваць мужу, але беспаспяхова, бо сігнал сеткі быў заслабы. Муж вярнуўся толькі праз дзве гадзіны. Па словах паліцэйскага, уз'яднанне сям'і абышлося без рукапрыкладства. Аднак паліцэйскаму здалося, што муж быў засмучаны не так моцна, як жонка.

**СМ**

**Жарты жартамі...**

«Металу ва ўмовах маразоў уласціва сціскацца», — апраўдваліся ўлады ў сховішчы золатавалютных рэзерваў.

**Самае чытанае на nn.by за 13—19 студзеня**

1. Ліст чытача: «Арэна-Сіці» — дзікі сорам
2. Лукашэнка выказаўся пра іпэшнікаў: «Скончыліся іх мядовыя гады»
3. Невыдуманные новости Белоруссии
4. У Мінску затрымалі баевіка «ДНР»
5. Ярмошына вярнулася з Парыжа: «Я была ахвярай піяру, як і ўсе астатнія»
6. Жыхар Мінска ездзіць на аўтамабілі з беларускім арнаментам і цытатамі з Каліноўскага
7. Снегапад "Даніэла" ўскладніў рух на дарогах
8. Шклярчанку, вінаватую ў ДТЗ з удзелам машыны з картэжу Лукашэнкі, прыгаварылі да пяці гадоў абмежавання волі
9. Уладзімір Някляеў. Пачутае ў чарзе па цукар
10. Некалькі байцоў з «ДНР» у Мінску? Адзін з іх: «Гэта проста страйкбольная пастаноўка»

# Кірыл Руды: Будучыня за пакаленнем, якое культывуе нацыянальную культуру, мову і суверэнітэт

Беларускія эканамісты падрыхтавалі навукова-практычнае выданне «Фінансавая дыета: рэформы дзяржаўных фінансаў Беларусі». Сярод аўтараў 20 даследчыкаў з БДЭУ, Акадэміі навук, Даследчага цэнтра ІПМ і іншых устаноў.

Навуковы рэдактар і складальнік манаграфіі — памочнік прэзідэнта Кірыл Руды. У «Савецкай Беларусіі» былі апублікаваныя ўрыўкі з гэтай кнігі.

У адным з іх Кірыл Руды разважае пра фінансавыя паводзіны трох пакаленняў беларусаў:



«Першае — савецкае пакаленне. Яно стрымана ў спажыванні. Шануе ў фінансавым плане тое, у чым у свой час адчувала дэфіцыт. Некаторыя, хто жыў у час пасляваеннага голаду, цэняць прадукты харчавання. Іншыя — бытавыя тавары, модныя рэчы, якасць жыцця. Асобныя — стабільнае месца працы цэняць больш за аплату працы. Гэта пакаленне заспела дэвальвацыю дзяржаўных каштоўнасцяў і вяршэнства індывідуальных. У праблемах эканомікі яно вінаваціць каго заўгодна, але толькі не сябе.

Другое — постсавецкае пакаленне, выгадаванае савецкім. На яго прыйшліся перабудова, «свабодныя» 1990-я, «тлустыя» 2000-я. Яно шануе магчымасці, звязаныя з задавальненнем новых, больш дарагіх патрэбаў: аўтамабілі, дамы, турызм. Гэта пакаленне спажывецкага грамадства, у якім індывідуальныя каштоўнасці адціскаюць дзяржаўныя. У аснове яго паводзін — індывідуальнае выжыванне («галоўнае — каб не закранулі мяне»), мінімальная сацыялізацыя з асяроддзем, недахоп даверу, падазрэнне да поспеху і адзін да аднаго.

Трэцяе — сучаснае пакаленне незалежнай Беларусі. Гэта пакаленне фарміравання сярэдняга класа і грамадзянскай супольнасці. Так, на ім адбіліся індывідуальныя каштоўнасці іх бацькоў, завышаныя сацыяльныя чаканні. Але ўсё часцей яно пачынае само культываваць і прывучаць старэйшыя пакаленні да грамадскіх каштоўнасцей: нацыянальнай культуры, мовы, суверэнітэту, самаідэнтыфікацыі (гістарычнай упэўненасці), ахову здароўя, адукацыі, спорту, навакольнага асяроддзя, грамадскага парадку. Важна памятаць, што ўсе гэтыя каштоўнасці — зона адказнасці дзяржавы і яе фінансаў. Таму сучаснае пакаленне фарміруе запыт на рэформы дзяржаўных фінансаў.

Агульным для трох пакаленняў беларусаў з'яўляецца імкненне да пераходу ад дзяржаўнага капіталізму да чалавечага з вяршэнствам індывідуальных і грамадскіх каштоўнасцяў. У аснове гэтай сістэмы — чалавечы капітал, грамадзянская супольнасць і сацыяльная дзяржава. Але для Беларусі важнейшае нават не куды і як трансфармавацца дзяржаўны капіталізм. Эканамічная гісторыя чалавецтва даказала, якая мадэль і шлях з'яўляюцца найбольш прымальнай для чалавека. Важнейшы час і хуткасць пераўтварэнняў».

Руды прапануе скараціць адпачынак па догляде дзіцяці да двух гадоў. На яго думку, працяглы адпачынак па догляде дзіцяці мае шэраг мінусаў — адмоўна ўплывае на колькасць працоўнай сілы, валавы ўнутраны прадукт і стварае «дадатковыя стымулы да дыскрымінацыі на рынку працы».

Яшчэ адной прапановай памочніка прэзідэнта па пытаннях эканомікі з'яўляецца павелічэнне пенсійнага ўзросту для жанчын. «Жанчынам неабходнае большае матэрыяльнае забеспячэнне для падтрымкі сям'і, а адпаведна, больш працяглая кар'ера, якая аплачваецца». На яго думку, паступовае выраўноўванне пенсійнага ўзросту ў Беларусі будзе спрыяць росту ВУП больш як на 1% пачынаючы з 2019 года.

**ЯМ**



# «Тарас зусім без башні»

БТ **паказала твар** затрыманага баевіка «ДНР».

17 студзеня ў перадачы «Галоўны эфір» на тэлеканале «Беларусь-1» быў паказаны рэпартаж пра затрыманага ў Мінску баевіка «ДНР». Тэлевізійшчыкі паведамілі, што 29-гадовага мужчыну (раней паведамлялася, што яму 35 гадоў), ураджэнца Пружанскага раёна, затрымалі проста на мінскім вакзале.

З сабой ён меў узнагароды, а таксама відэакадры з перадавой, якія даказваюць ягоны ўдзел у баявых дзеяннях.

У баевіка пазыўны Тарас. Ягоныя калегі на відэа кажуць: «Гэта Тарас, ён зусім «бязбашаны» на галаву. У Тараса зусім «башні» няма». На кадрах Тарас дэманструе, як будзе забіваць праціўнікаў. Сам Тарас у кароткай нарэзцы размаўляе аднымі матамі.

Ён служыў у брыгадзе «Усход» больш за год. У вучэбцы Тараса пратрымалі ўсяго дзень, бо ў яго за плячыма была служба ў беларускім войску. Ён быў разведчыкам, удзельнічаў у баях за Данецкі аэрапорт.

Сам Тарас выхваляўся, што забіў больш за 100 чалавек. Ён меў з сабой узнагароду «За баявыя заслугі».

Тарас быў затрыманы 10 студзеня, а ў вышуку знаходзіўся праз нясплату аліментаў.

**Зміцер Панкавец**

# СК: Расследаванне справы «Друга Дука» працягваецца

Амаль два месяцы таму на сталічным чыгуначным вакзале прайшло дзіўнае затрыманне хлопца, які нібыта ваяваў у АТА. Многія спачатку палічылі, што або затрыманага, або абставіны ягонага затрымання проста «выдумалі». Але Следчы камітэт пацвярджае, што хлопец знаходзіцца пад вартай, а праца па крымінальнай справе ідзе.

Нагадаем, што 26 кастрычніка мінулага года на мінскім чыгуначным вакзале затрымалі 28-гадовага ўраджэнца Віцебскай вобласці. У дачыненні да затрыманага распачалі крымінальную справу за незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў.



Затрыманне выглядала, мякка кажучы, падазроным: хто ў здаровым розуме будзе знаходзіцца ў цэнтры горада з такім «багажом»? Хлопец сапраўды ваяваў на Данбасе пад пазыўным Друг Дук, але не разам з беларусамі.

«У цяперашні час ажыццяўляецца правядзенне стацыянарнай комплекснай псіхолага-псіхіятрычнай экспертызы абвінавачанага, праводзіцца работа па вызначэнні і фіксацыі ўсіх абставінаў, якія маюць доказнае значэнне па крымінальнай справе, — паведаміла Юлія Ганчарова, афіцыйны прадстаўнік СК Рэспублікі Беларусь. — Па выніках экспертызы, а таксама на падставе атрыманых следствам дадзеных будуць прымацца далейшыя працэсуальныя рашэнні, аб якіх мы праінфармуем».

**УШ**

### Цытата

**Лукашэнка: КДБ з міліцыяй, разбірайцеся імгненна!**

Аляксандр Лукашэнка выступіў рэзка супраць прысутнасці ў краіне баевікоў, якія ваявалі ва Украіне з таго ці другога боку, і запатрабаваў ад сілавікоў неадкладна разабрацца ў сітуацыі.

«Некаторыя так званыя смелыя людзі, баевікі, якія ваявалі ў Данбасе, пазіруюць ужо ў Мінску са зброяй. Разбірайцеся імгненна разам з міліцыяй і КДБ. Ніякіх пазёраў, ніякіх баевікоў у краіне быць не павінна», — падкрэсліў Лукашэнка.

# Каля Дома ўрада прайшла акцыя салідарнасці з прадпрымальнікамі

18 студзеня індывідуальныя прадпрымальнікі, а таксама актывісты АГП правялі **вулічны сход**.

Агулам людзей было не так шмат — каля 30 чалавек. Але ва ўмовах, калі многія прадпрымальніцкія лідары заклікаюць ні ў якім разе не выходзіць на вуліцы, гэта таксама нямала. Іпэшнікі прыехалі з Гродна, Віцебска, Крупак, Салігорска, Дзяржынска. Некаторыя, як Ірына Яскевіч з Віцебска, бралі слова. Яна казала, што прадпрымальнікаў проста хочуць знішчыць як клас.

Прадпрымальнікі патрабуюць адмены ўказа №222, які прадугледжвае абавязковую сертыфікацыю тавараў. На нарадзе на тым тыдні Аляксандр Лукашэнка запэўніў, што «сертыфікацыя — гэта толькі пачатак». «Скончыліся ў прадпрымальнікаў мядовыя гады», — сказаў ён.

На плошчы Незалежнасці было вельмі шмат «ціхароў», а таксама людзей у форме. Яны нікога не затрымлівалі і не білі, але на кожнага чалавека, які неяк праяўляў актыўнасць, складалі пратакол.

Напрыклад, прадпрымальнік Артур Адамян з Магілёва прыйшоў з плакатам «Хопіць маўчаць: Лукашэнка — ганьба Беларусі», а актывістка АГП Вольга Маёрава раздавала газету «Голас розуму».

Падтрымалі камерсантаў і некаторыя прадстаўнікі апазіцыі. Актывістка Ніна Багінская прыйшла з бел-чырвона-белым сцягам, з якім прайшлася ад Чырвонага касцёла да Дома ўрада, куды старшыня АГП Анатоль Лябедзька занёс прапановы партыі па выхадзе краіны з крызісу.

**ЗП**



# «Новым лідарам у свеце мусіць

Футуролаг і знаны бізнэсовец **пра будучыню Беларусі.**

15 студзеня ў Мінску адбылася сустрэча з Аляксандрам Аніскевічам — адным з першых прадпрымальнікаў на постсавецкай прасторы, былым топ-менеджарам «Е-Мабіля», які цяпер займаецца нафтай і распрацоўкай праграм для мабільных тэлефонаў.

Цяпер з'яўляецца сябрам рады дырэктараў нафтатрэйдара *Bryce Holding Limited (Cyprus)*. Кіруе напрамкам мабільных дадаткаў і інавацый у сферы IT.

У 2009 годзе стварыў і ўзначаліў Інстытут праблем мадэрнізацыі, стратэгіі і развіцця грамадства. Аляксандра можна назваць футуролагам — ён аналізуе тэндэнцыі ў свеце і на падставе гэтага прадказвае недалёкую будучыню.

Менавіта пра гэта збольшага і ішла гаворка падчас ягонага выступу. Ніжэй мы прыводзім найбольш цікавыя разважанні Аляксандра.




Аляксандр Аніскевіч з'яўляецца сябрам рады дырэктараў нафтатрэйдара *Bryce Holding Limited (Cyprus)*. Кіруе напрамкам мабільных дадаткаў і інавацый у сферы IT.

У 2009 годзе стварыў і ўзначаліў Інстытут праблем мадэрнізацыі, стратэгіі і развіцця грамадства.

### Пра непрадказальнасць свету і чалавечыя якасці

Прынамсі да 2020 года мы знаходзімся ва ўмовах абсалютнай нявызначанасці. Гэта не мае словы, гэта 2012 год, справаздача ЦРУ, якое прыцягнула для складання прагнозу амаль шэсць тысяч экспертаў. І я тут цалкам згодны.

Пра што гэта кажа? Галоўным стане адэкватнасць і адаптыўнасць. Дыназаўры адмерлі не таму, што клімат змяніўся, а таму, што яны не змаглі адаптавацца да гэтых зменаў. Адаптыўнасць — ключавая здольнасць, на якую неўзабаве будзе зменена ўся сістэма адукацыі.

Чалавек не будзе канцэнтравацца на атрыманні нейкіх фундаментальных ведаў, бо яны не трэба — для гэтага ёсць *Google*, у якога можна спытаць «як» і «што». Галоўным стане здольнасць правільнага выкарыстання ведаў. Найлепшы ўзор — у вас ёсць спаржа і салёны агурок. Вы можаце выкінуць спаржу, нарэзаць агурок і прадаць за даляр у якасці закускі. Альбо зрабіць складаную страву за 10 даляраў. Вось яна — розніца ў адаптыўнасці. Перамагаць будзе той, хто будзе хутчэй бачыць адваротны бок месяца, глядзець на прадмет з іншага ракурсу, бачыць нетыповы падыход.

Прывяду прыклад. У СССР былі два галоўныя святы — Дзень будаўніка і Дзень міліцыі. Таму што ўсе кралі і таму што краіна ўвесь час штосьці будавала, можна было спісваць каласальныя сродкі. І людзі на будоўлях і ў праектных інстытутах зараблялі шалёныя грошы. Пасля Алімпіяды стала зразумела, што ў краіне катастрафічна не хапае гасцінічных месцаў. У найбуйнейшых гарадах краіны сталі ўзводзіць вялікія гатэлі, у Мінску гэта «Беларусь». Але ў 82-м ці 83-м усе гэтыя аб'екты замарозілі. Некаторыя і 30 гадоў прастаялі недабудаванымі. Вось так ураз скончылася добрае жыццё будаўнікоў. І прычым тут адаптыўнасць? А пры тым, што разумныя людзі з праектных інстытутаў тады зразумелі, што ўсё, грошай больш не будзе. І яны сышлі з галіны, пачалі зай-мацца іншым. І сёння, праз 30 гадоў, я перакананы, што яны добра сябе адчуваюць. Але былі і тыя, хто нікуды не зрушыўся. Яны думалі: ну як жа?Усё ж вернецца і будзе як раней. Гэтыя засталіся на бабах, з масай комплексаў.

Трэба глядзець наперад, не ехаць на дохлым кані. Разумныя пацукі не тыя, якія першымі бягуць з карабля, а тыя, якія бягуць з яго яшчэ ў порце, адчуваючы, што карабель патоне.

Адаптыўнасць — здольнасць бачыць дробныя сігналы. Гэта галоўная якасць, якая будзе запатрабавана.

### Пра будучую пандэмію

Я мяркую, што ў будучыні здарыцца глабальная пандэмія. Пры сённяшнім аб'ёме перасоўвання людзей гэта здарыцца. Гэта як калі ўсе застрахаваліся ад пажару, і тады чыясьці кватэра абавязкова згарыць. Мачу-Пікчу, кінутыя гарады Азіі, у 90 выпадкаў са 100 прычынай раптоўнай эміграцыі з'яўлялася пандэмія, прынесеная звонку. З сённяшнімі лічбамі насельніцтва агламерацый чалавечыя страты будуць каласальныя, людзі пабягуць у вёску.

## Эпоха МТЗ і МАЗаў скончаная, затое цяпер Беларусь стварыла Viber, WhatsApp і прыборы начнога бачання

Таксама абвострацца канфлікты за ваду. Нават у Беларусі ўжо тры гады недастатковае водаўтварэнне. Гэта абсалютны факт! Вы бачылі, што сёлета было з рэкамі і калодзежамі? І гэта адбываецца паўсюль. Пару гадоў таму французскія АЭС пераходзілі на аварыйны рэжым, бо не хапала вады для ахаладжэння рэактараў. Вы можаце сысці ў жорсткую галадоўку, але вы не пражывіце без вады. Гэта ключавы яблык разладу для войнаў. Кітай, Цэнтральная Азія і Блізкі Усход — патэнцыйна праблемныя рэгіёны. І словы прынца Чарльза пра тое, што канфлікт у Сірыі — гэта водны канфлікт, часткова абгрунтаваныя. У гэтым плане Беларусі пашанцавал больш за астатніх.

### Прычыны крызісу і перафарматаванне свету

Перавагі майго пакалення бэбібумераў 45—65 гадоў сфарміраваны нашымі бацькамі. Яны прайшлі праз 1930-я і вайну. Яны ўсё сваё жыццё знаходзіліся ў стане стратаў. Ёш сытна, май пяць машын, тры кватэры, сто параў абутку — вось тыя ідэалы, якія бацькі перадалі нам. Яны свае мары рэалізоўвалі на нас. Мы — спажыўцы. Мы — стварылі сучаснае спажывецкае грамадства. Ёсць гісторыя, калі Англію блакавалі нямецкія падлодкі і перакрылі сістэму забеспячэння з кантынента. І англічане выпусцілі закон, паводле якога кожнае яйка мусіла быць не з'едзена, а здадзена на адмысловы завод, каб з яго зрабілі парашок, з якога потым гатавалі амлет. Пакаленне брытанцаў не ведала яечні! Але цяпер у нас такіх праблемаў няма, паліцы крамаў заваленыя чым заўгодна. Людзі маюць усё. Чалавецтва выходзіць з эпохі спажывання.

У «пакалення міленіум» іншыя запыты: яно хоча грамадскага прызнання, запатрабаванасці. Гэтая прага часам і выліваецца ў «лайкі» за голую задніцу, высунутую з акна цягніка. Але гэтая дурасць толькі частка агульнай тэндэнцыі: новае пакаленне патрабуе не грошай, а прызнання сваёй карысці. Вядома, што, калі ставіш мэту зарабіць грошы, грошай ніколі не будзе. Заўсёды яны з'яўляюцца ў той момант, калі ты змяняеш мэту «грошы» на мэту «мара».

## «Мара» для маладога пакалення важнейшая за «грошы»

І людзі пачынаюць разумець, што ад таго, што воўк не задзірае разам усіх ласёў у лесе, ягоны аўтарытэт паляўнічага не меншае. Моладзь хоча не грэбсці пад сябе, як рабілі мы, а самарэалізацыі.

### Пра мадэль жыцця і грошы

Змяняецца сама мадэль жыцця, сацыяльныя кантракты. У мінулай мадэлі быў пажыццёвы кантракт найму.

У СССР мужчына жыў менш за 60 гадоў, а пенсійны ўзрост быў 60.

Яшчэ школьнікам на вакацыях працаваў на гадзіннікавым заводзе і бачыў, як адбываецца спісанне людзей: прыходзіла 18-гадовая дзяўчынка ў зборачны цэх, за 5—7 гадоў гарантавана саджала сабе зрок і пераходзіла на гальваніку. Калі яшчэ за 5—7 гадоў яна не станавілася інвалідам, то рабілася кладаўшчыком.

І так было на кожным заводзе: рабіць усё жыццё і, пажадана, падохнуць да пенсіі. Цяпер усё інакш. Чаму Дэтройт стаў банкрутам? Банкруцтва двух пенсійных фондаў, і ўсё.

І я не праціўнік, не прыхільнік сённяшніх уладаў, я не жыву тут. Але я даў бы Лукашэнку Нобелеўскую прэмію за г.зв. «падатак на дармаедства», які апярэджвае час. Толькі што ён афармлены трохі не так, але ідэя геніяльная. Гэта трэба афарміць як выкуп дзяржаве. Я вам плачу — вы мяне не чапаеце. Не патрэбныя чалавеку ні льготы ЖКГ, ні бясплатная медыцына, ні льготны праезд. Трэба даць яму магчымасць зарабляць грошы, бо, паўтаруся, схема пажыццёвага найму ўжо не працуе. Кожны чалавек шматфункцыянальны, ён мусіць працаваць на некалькіх работах. Сёння гэта можна рабіць, нават не выходзячы з дому. І межы фінансавай актыўнасці сёння падвоіліся. Гэта ўжо не 20—60 гадоў, а 10—80. Калі ў цябе ёсць свой бізнэс, навошта табе пенсія? Калі ты добра зарабляеш, што замінае табе адкладваць? Халяўнае жыццё скончылася, і пры сённяшніх прапагандысцкіх магчымасцях СМІ трэба данесці гэта да кожнага. Новае пакаленне не хоча сядзець на лаўцы, лічыць капейкі ад дзяржавы, яно хоча працаваць.

### Пра ўлады будучага

У будучым у чымсьці паўторыцца сярэднявечная гісторыя гарадоў-дзяржаў, толькі сёння гэта называецца агламерацыямі. Для прыкладу, Сан-Францыска і Лос-Анджэлес сёння даюць каля 20% ВУП ЗША, агламерацыя Масква — гэта больш за 30% рознічнага абароту Расіі, агламерацыі Токіа і Сінгапур таксама яскравыя ўзоры. Цэнтральныя ўлады будуць губляць значнасць, зноў стане актуальным штосьці накшталт Магдэбургскага права.

# стаць Усходняя Еўропа»

Нават пытанне збору сродкаў грошай — талака заўсёды ахвяруе больш за дзяржаву. І тэндэнцыя будзе пашырацца. Тэхналагічныя змены ставяць пад пытанне самое існаванне вярхоўнай улады. Узоры — Эстонія і Ісландыя. Эстонія ўжо перавяла ўвесь працэс прыняцця рашэнняў у лічбавы фармат. А ўсё насельніцтва Ісландыі ў мінулым годзе рэдагавала сваю Канстытуцыю ў інтэрнэце, гэта здзейснены факт! І яе прынялі. Цяпер кожны можа сказаць, што я вось тут выпраўў граматычную памылку, а тут дапісаў слова. Кожны чалавек пісаў Канстытуцыю. Кожны чалавек хоча быць датычным да чагосьці вялікага, прымаць рашэнні разам з астатнімі, а не каб рашэнні прымаліся за яго. Неўзабаве гэта знішчыць улады ў традыцыйным разуменні гэтага слова.

### Пра сацсеткі і гаджэты

Створаныя для забавы сацсеткі сёння трансфармуюць грамадства, уплыў сацыяльных сетак хутка стане большым за СМІ. Самі СМІ пярэйдуць у сацыяльныя сеткі. Людзі, народжаныя пасля 2000 года, будуць большасць сваіх праблемаў і патрэбаў вырашаць праз свае гаджэты. Усе камерцыйныя схемы ў звыклым разуменні знікнуць і пярэйдуць у анлайн. Напрыклад, дастаўка ежы, вырашэнне бюракратычных пытанняў, выстаўленне адзнак у школе і гэтак далей. Амаль што ўсё. І сеткавы рэйтынг у будучыні фактычна адзіны актыў і персанальны капітал. Усе астатнія поспехі — гэта вынікі твайго рэйтынгу. Усе маркетплэйсы і паслугі ў інтэрнэце сёння скончваюцца адным — карыстальніку прапаноўваецца ацаніць паслугу. Але гэта ўзаемна — карыстаючыся *Uber*'ам вы не толькі ацэньваеце таксіста, але і таксіст ацэньвае вас. Калі ў вас нізкі рэйтынг, вы кепскі кліент — да вас не паедуць! У заўтрашнім свеце схавацца нельга. Кожнае вашае дзеянне пакідае след у інтэрнэце. Захаваць давер і заслужыць высокі рэйтынг — вось звышмэты кожнага чалавека блізкай будучыні.

### Пра рэлігіі і нацыянальнасці

У найбліжэйшай будучыні рэлігіі — як традыцыйныя, так і новыя — будуць новым трэндам. Рэлігійныя ордэны будуць мець каласальны ўплыў. І ўзор «Ісламскай дзяржавы» паказвае, як гэта з нічога можа здарыцца за год-два.

Яшчэ ўсе ўзгадаюць пра нацыянальную ідэнтычнасць. Бо так ці інакш, але, выхоўваючы дзіця, ты аднойчы павінен прыйсці і сказаць, хто мусіць быць для яго аўтарытэтам, чым можна ганарыцца. Гэта ўсё ёсць у мінулым. І калі табе няма чым ганарыцца, то ты не ведаеш, за што табе змагацца і што абараняць.

Не ведаючы сваіх каранёў, чалавек лёгка можа патрапіць пад уплыў розных дэструктыўных плыняў, як ужо згаданая «Ісламская дзяржава». Рэлігійныя супярэчнасці будуць толькі ўзмацняцца. Найгоршы сцэнар — гэта вайна паміж мусульманамі і індусамі. Яна можа пракаціцца ад Сірыі да Пакістана, і тады будзе кепска ўсім. Але я спадзяюся, што свет гэтага не дапусціць.

### Кітай — мёртвы конь

Кітай знікне як сусветны лідар. На яго рабілі стаўкі, але гэта мёртвы конь. Кітаю не патрэбны ні лес, ні газ, калі ягоныя трусы і цацкі не купляюць у свеце. Напрыклад, гандлёвы абарот паміж Кітаем і Расіяй за адзін толькі год скараціўся на 30%. З Еўропай і Амерыкай таксама ідзе скарачэнне. Магутнасць Кітая падае. Разлік на ўнутраны рынак не пройдзе, бо кітаец як сто гадоў таму жыў на талерку рыса ў дзень, так і сёння жыве. Яго не прымусіш купіць дзесяць маек, якія не купілі немцы. Новым лідарам у свеце мусіць стаць Усходняя Еўропа.

## За падатак на дармаедаў я б даў Лукашэнку Нобелеўскую прэмію па эканоміцы

### Выдатныя перспектывы Беларусі

Усе мы здыхлікі неўміручыя. І куды б мы ні адскочылі, мы будзем жыць добра, бо ў новай генерацыі ёсць запыт на «добра жыць», і моладзь гэтага даб'ецца, я гарантую. У Беларусі каласальны патэнцыял у інтэлектуальнай і лагістычнай сферы. Эпоха дамінавання энергетычных краін сыходзіць, вы самі гэта бачыце — дзя цяперака Расія?

Каб вы разумелі, сёння капіталізацыя *Uber*'а (мабільны дадатак) — 60 мільярдаў даляраў! А капіталізацыя «Раснафты» — каля 30 мільярдаў.

А дзе стварылі *Viber* і *WhatsApp*? У Беларусі. У нас ужо сёння некалькі дзясяткаў кампаній, якія абсалютныя сусветныя лідары і нават манапалісты ў сваіх сферах. Напрыклад, *World of Tanks*. У беларускую гульню гуляе ўвесь свет. Але гэта толькі адзін узор.

У Гродне робяць спецыяльнае шкло для касмічных спадарожнікаў, *Yukon Advanced Optics Worldwide* кантралюе большасць рынку прыбораў начнога бачання, «Алютэх», «Косвік», у Беларусі робяць унікальнае абсталяванне для рамонту газавых труб на глыбіні, робяць апараты лазернай медыцыны. Чаму мы не ведаем пра іх? Бо яны не свецяцца, на тое ёсць прычыны, але гэта паказчык, як мы ўмеем зарабляць.

Эпоха МТЗ і МАЗаў скончаная, яны больш не працуюць. Свет чакае дэіндустрыялізацыі. І мы ўжо займаем свае нішы.

Трэба зірнуць на сваё мінулае. Самае вялікае дзяржаўнае ўтварэнне ў другім тысячагоддзі — гэта ВКЛ. Першая дэмакратычная канстытуцыя, першая верацярпімасць, самая развітая эканоміка, самае развітае дэмакратычнае грамадства. Карані эканамічнай магутнасці ВКЛ у тым, што мы былі лагістычным цэнтрам паміж развітымі скандынавамі і Візантыяй. І ў выніку сталі найбольшымі прыбыткаатрымальнікамі ад гандлю паміж гэтымі цэнтрамі. І што, хіба мы сталі дурнейшымі? Не. Але спачатку трэба ўзгадаць, што мы ліцвіны, народ, які за сваю веліч сцярпеў найбольшы ў гісторыі Расійскай Імперыі генацыд. Аднаўленне Рэчы Паспалітай у фармаце Балта-Чарнаморскай Уніі, як федэрацыі розных дзяржаў, мне здаецца малаімаверным. Гэта будзе штосьці накшталт Ганзейскага эканамічнага саюза з апрышчам на свае ўнутраныя рынкі. Беларусь таксама можа стаць еўрапейскім лідарам, бо для гэтага ёсць гістарычны падмурак. Зноў успомнім Вялікае Княства Літоўскае — вось наш вялікі ўзор.

**Запісаў Арцём Гарбацэвіч**

# «Залатая кафедра Расіі»: махляры з навуковымі званнямі

Чытач «Нашай Нівы» з Віцебска даслаў у рэдакцыю ліст, у якім звярнуў увагу на тое, што ў Віцебскай акадэміі ветэрынарнай медыцыны ажно дзве кафедры ўзнагароджаныя званнем «Залатая кафедра Расіі». Як у беларускай установе адукацыі могуць існаваць кафедры іншых дзяржаваў? «Наша Ніва» разабралася і высветліла, што тое званне — не больш як псеўданавуковае махлярства.

Што такое «Залатая кафедра Расіі»? Гэта ўзнагарода, якую выдае г.зв. «Расійская акадэмія прыродазнаўства». У 2013 годзе гэтую ўзнагароду атрымала кафедра гігіены жывёлаў, якой кіраваў Мядзведскі Уладзімір Аляксандравіч, а ў 2012 кафедра паразіталогіі і інвазійных хваробаў Віцебскай ветэрынарнай акадэміі. Тады гэтай кафедрай, як і усёй акадэміяй, кіраваў Антон Ятусевіч.

Трохі раней ён атрымаў ад той жа «Акадэміі прыродазнаўства» шэраг іншых узнагарод: званне «Заслужаны дзеяч навукі і адукацыі» і «Залаты медаль імя М.І. Вавілава».

«Антон Іванавіч, віншуем вас з наданнем ганаровага звання «Заслужаны дзеяч навукі і адукацыі» ад Расійскай акадэміі прыродазнаўства. Чым тлумачыцца такая ўвага да вас і да беларускага ВНУ ў замежжы?» — пыталіся ў лаўрэата журналісты «Беларускай нівы» ў 2013 годзе.

Той пералічваў шэраг сваіх дасягненняў і падсумоўваў, што і надалей разам з калегамі будзе трымаць «марку навукоўцаў сусветнага ўзроўню».

Між тым «Расійская акадэмія прыродазнаўства» — гэта акадэмія толькі па назве. Ніякіх навуковых складнікаў у ёй няма. Гэта выдавецкі дом, які друкуе і прадае прагным да ўзнагародаў навукоўцам свае ліпавыя дыпломы. Напрыклад, той «Залаты медаль імя М.І. Вавілава» «Расійскай акадэміі прыродазнаўства» — гэта копія аднайменнага медаля аўтарытэтнай Расійскай акадэміі навук. Паводле «Вікіпедыі», з 1997 года сапраўдым медалём імя Вавілава ўзнагароджаныя толькі тры чалавекі. Прысуджаецца сапраўдны медаль за «выбітныя работы ў галіне генетыкі, селекцыі і раслінаводства». У «РАП» фармулёўка прысуджэння ўзнагароды абсалютна такая ж, з той розніцай, што за «ўзнагароды» РАП трэба плаціць, і атрымаць гэты медаль можа абсалютна кожны.

Робіцца гэта такім чынам: на сайце «РАП» ахвотнаму прапануецца стаць «сушукальнікам» узнагоды, якіх некалькі дзясяткаў на выбар.

Пасля афармлення запыту праз нейкі час на электронную пошту прыходзіць адказ ад «навуковага сакратара», дзе паведамляецца, што кандыдатура сушукальніка ўхвалена да ўзнагароджвання.

За грошы выдавецкі дом прадае нават званні акадэміка, прафесара і члена-карэспандэнта «РАП»! Вядома, што гэтыя званні толькі дублююць афіцыйныя навуковыя пасады, бо «РАП» не з'яўляецца навуковай акадэміяй. Такое сабе «казытва» ў навуковым асяродку.

Але адная справа купляць ліпавыя званні і прэміі для сябе. Другая справа — афармляць узнагароду на кафедру. Узнікае пытанне, ці не за дзяржаўныя сродкі набывалася тая «Залатая кафедра Расіі» ў Віцебскай акадэміі?

Мы датэлефанаваліся да спадара Антона Ятусевіча, як даў нам «чэснае прафесарскае слова», што за гэтыя ўзнагароды ён не заплаціў ні капейкі. Маўляў, «мы ўбачылі на сайце абвестку пра конкурс на «Залатую кафедру», адаслалі дакументы і перамаглі».

Журналісты «Нашай Нівы» таксама, для эксперыменту, напісалі запыт на ўзнагароджванне нашай «кафедры» званнем «Залатой кафедры Расіі». Літаральна праз дзень прыйшоў адказ, сутнасць якога: «вы перамаглі, пералічыце на гэты рахунак 7000 расійскіх рублёў на «афармленне дакументаў» і забірайце сваю ўзнагароду». Пры жаданні можна прыехаць у «РАП» асабіста, альбо замовіць перасылку на свой адрас.

Апроч дзвюх кафедраў Віцебскай ветэрынарнай акадэміі, узнагароду «Залатая кафедра Расіі» мае, напрыклад, «кафедра» «энііінжынерыі» «Акадэміі энііінжынерыі Расіі». Яна існуе толькі ў інтэрнэце, і кіруюць гэтай «кафедрай» шарлатаны, якія называюць сябе «дактарамі энэргаінфармацыйных навук» і «лечаць» рак «энэргіяй жыцця з космасу», як ім то дыктуе «Найвышэйшы касмічны розум». На пытанне, ці не засмучае яго тое, што гэтая «РАП» выдае свае фіктыўныя ўзнагароды ўсім ахвотным шарлатанам, Антон Ятусевіч сказаў, што яму пра гэта нічога не вядома.

**АЯ**

## Рыгор Памяранцаў больш не ўзначальвае Нацыянальнае агенцтва па турызме: не захацеў закрываць свае прадпрыемства і рахункі за мяжой

Беларускае заканадаўства забараняе чыноўнікам мець рахункі за мяжой і ўласны бізнэс.



Як паведаміў сам спадар Памяранцаў, рашэнне пакінуць пасаду выканаўцы абавязкаў дырэктара Нацыянальнага агенцтва па турызме было яго ініцыятывай.

«У мяне ёсць фірма ў Латвіі і рахункі за мяжой, — распавёў Памяранцаў. — Калі я пагадзіўся прыйсці на працу ў Нацагенцтва, гэтая акалічнасць ні для каго не была сакрэтам. У той жа час вядома, што такія чыннікі, як наяўнасць рахункаў за мяжой у беларускага чыноўніка і ўласны бізнэс, супярэчаць беларускаму заканадаўству. Увесь гэты час я быў выканаўцам абавязкаў, але дамовы я не падпісваў. Быў загад начальніка Дэпартамента па турызме Вадзіма Кармазіна і генеральная даверанасць намесніка міністра Міхаіла Партнога. Мне, вядома, было ўсё адно, як называецца мая пасада і які мой статус, але фактычна ўвесь гэты час я быў у падвешаным стане. Я хачу, каб мяне правільна зразумелі. Я ішоў не дзеля высокіх пасад і зарплаты, у мяне ёсць сродкі да існавання. Я хацеў дапамагчы беларускаму турызму. Магу паведаміць, што мая афіцыйная зарплата была паўтара мільёна беларускіх рублёў, з усімі надбаўкамі некалькі разоў выплачвалі да 10 мільёнаў, але, напрыклад, у лістападзе наскрэблі толькі тры мільёны. Я нічога ніколі не прасіў. Але, калі мяне папрасілі закрыць рахункі, перапісаць фірму на жонку, для таго каб мяне афіцыйна зацвердзілі на пасадзе — гэта значыць, фактычна сысці ў мінус, — я, натуральна, прыняў рашэнне сысці. У мяне трое дзяцей, мне трэба іх карміць. Я ішоў у Нацагенцтва, бо ў мяне была выразная ўпэўненасць, што я магу дапамагчы. Але я адчуў, што, знаходзячыся ў сістэме, я не магу змяніць сістэму — хутчэй, сістэма пачынае мяняць мяне. А гэта ўжо ніўпростая пагроза. Таму думаю, што я змагу быць эфектыўным і дапамагаць беларускаму турызму, знаходзячыся па-за сістэмай. Я працую ў турбізнэсе, у мяне фірма ў Латвіі, якая займаецца кансалтынгам, маркетынгам, прасоўваннем у сферы авіяцыі. Я ўпэўнены, што змагу быць вельмі карысным беларускаму турызму».

Рыгор Памяранцаў узначаліў Нацыянальнае агенцтва па турызме Беларусі ў пачатку лета 2015 года. Турыстычная грамадскасць бурна вітала прызначэнне на пасаду галоўнага «піяршчыка» Беларусі былога менеджара *AirBaltic*. Зрэшты, ужо тады гучалі сумневы ў тым, што Рыгор зможа надоўга затрымацца «ў сістэме».

**Паводле tio.by**

# Зімой за двухпаёўку беларус плаціць $25, а літовец — каля $155

Квартплата даражае, але ўсё адно застаецца зусім таннай.

Ільготны тарыф на ваду і каналізацыю вырас амаль у 4 разы. На газ і электрычнасць адмянілі «льготу на ПДВ» — для спажыўцоў кошт вырас на 20%. Нарэшце, падаражала і тэхнічнае абслугоўванне (глядзі ўрэзку). Складваецца ўражанне, што ўлады ўзяліся за камуналку, каб павялічыць даходы бюджэтаў.

## Беларускі сацыялізм

Колькі складзе ў Беларусі камуналка па новых тарыфах? Для прыкладу возьмем кватэру плошчай 50 м², у якой пражывае сям'я з трох чалавек.

| | Квартплата за двухпакаёўку | Заробак чыстымі ў краіне |
|---|---|---|
| Беларусь | $24 | $280 |
| Украіна | $37 | $180 |
| Расія | $44 | $370 |
| Літва | $155 | $615 |

Базавы тарыф тэхнічнага абслугоўвання застаўся ранейшым, па ім давядзецца заплаціць 49 700 рублёў, на капітальны рамонт адлічыцца яшчэ 41 900 рублёў.

Цяпер да тэхнічнага абслугоўвання дададуцца новыя радкі. Плата за ліфт будзе каштаваць сям'і каля 50 тысяч, а прыборка — каля 20 тысяч.

У кожным доме зімой грэюць па-свойму. Калі батарэі пякуць, то і плаціць давядзецца больш. У нашай снежаньскай жыроўцы за ацяпленне выставілі 65 тысяч, а за падагрэў вады 48 тысяч. Халодная вада і каналізацыя па новым тарыфе складуць каля 30 тысяч.

У кватэры ёсць электрапліта, і сям'я ўкладваецца ў 150 кВт/г. Значыцца, па новым тарыфе электрычнасць будзе каштаваць каля 150 тысяч. Цяпер давядзецца асобна даплачваць за святло ў пад'ездзе — каля 10 тысяч.

Вываз і перапрацоўка смецця пацягнулі яшчэ на 25 тысяч.

Агулам квартплата за двухпакаёўку ўзімку склала 495 тысяч рублёў — менш за $25 у эквіваленце. Гэта каля 6% ад сярэдняга заробку мінчука «чыстымі».

Зразумела, што дзяржаўныя датацыі, якімі закрываецца частка квартплаты, бяруцца з бюджэту. Які, у сваю чаргу, напаўняецца падаткамі беларусаў.

## Літва — на рынкавых умовах

Краіны Балтыі славяцца сваімі драконаўскімі тарыфамі на камунальныя паслугі — такая цана энергетычнай незалежнасці ад Расіі.

Тэхабслугоўванне ў Вільні ў чатыры разы даражэйшае, чым у Мінску, вываз смецця — у 6 разоў, ацяпленне і вада — прыкладна ў 20 разоў.

Калі пералічыць беларускую квартплату па літоўскіх тарыфах, атрымліваецца крыху больш за 3 мільёны рублёў — каля $155!

Праўда, заробкі і пенсіі ў краінах Балтыі, вядома ж, вышэйшыя, чым у Беларусі. Сярэдні літовец атрымлівае «чыстымі» каля $615, а беларус за свой заробак можа цяпер набыць толькі $280.

## Сярэдні падыход

Украіна і Расія апынуліся на шляху паміж сацыялістычным падыходам Беларусі і капіталістычным прынцыпам Літвы.

У Маскве электрычнасць каштуе як і ў Мінску. А вось ацяпленне і падагрэў вады ўтрая даражэйшыя.

У выніку ўся квартплата двухпакаёўкі каштавала б каля 900 тысяч рублёў — $44 у эквіваленце. За сярэдні заробак чыстымі расеец можа набыць $370.

Ацяпленне ў Кіеве фактычна як у Маскве, а вось тэхнічнае абслугоўванне — як у нас. У выніку квартплата каштуе $37. Пры ўкраінскіх заробках гэта вялікая лічба.

**Ягор Марціновіч**

# «Трайпл» зацягвае паясы

Бізнэс-імперыя **Юрыя Чыжа** перажывае цяжкія часы.



Уплывовы бізнэсовец Юрый Чыж рэарганізуе сваю бізнэс-імперыю «Трайпл» і ўваходзіць у рэжым жорсткай эканоміі.

«Агульны глабальны крызіс, змена кан'юнктуры і ўнутраная нявызначанасць вымусілі ўласніка кампаніі заняцца рэарганізацыяй свайго бізнэсу», — распавёў былы супрацоўнік «Трайпла». Некаторыя актывы выстаўлены на продаж, частка службаў аб'ядданая, частка персаналу звольненая. «Пад скарачэнне трапілі тыя, хто наўпрост не прыносіць грошай: маркетынг, піяр, бухгалтэрыя, сацыялка і іншыя», — кажа былы супрацоўнік.

Юрый Чыж ужо прадаў кампанію «Аскаргатэрмінал», якая праводзіла паслугі мытнага агента ў Нацыянальным аэрапорце Мінск.

Што тычыцца спорту, то і там адбываецца зразанне бюджэту. Юрый Чыж, які нарадзіўся ў Бярозаўскім раёне, перастаў быць галоўным спонсарам каманды першай лігі «Бяроза-2010», якая ўваходзіць у структуру мінскага «Дынама». Што тычыцца самога «Дынама», то склад каманды таксама пакінулі некалькі ключавых гульцоў і замежных трэнераў. Некаторым футбалістам прапанавана перазаключыць кантракты на горшых умовах.

Аб цяжкасцях з уласным фінансаваннем сведчаць дадзеныя Міністэрства фінансаў, якое публікуе інфармацыю аб прыбытках і стратах эмітэнтаў аблігацый. За тры кварталы мінулага года «Трайпл» меў чыстыя страты памерам $3,4 мільёна.

Нагадаем, летам 2015 года былі арыштаваны Уладзімір Япрынцаў, шматгадовы бізнэс-партнёр і асабісты сябар Юрыя Чыжа. Ягонай справай займаецца КДБ.

**Паводле: Аляксандр Заяц, Tut.by**

## Сцісла

### Медыянны заробак — 5 282 800 рублёў

Белстат падлічыў, які заробак мае сярэдні работнік. То бок палова беларусаў зарабляе больш за ўказаную суму, палова — менш. Гэта больш рэалістычная ацэнка дабрабыту. Медыянны заробак адрозніваецца ад сярэдняга на 22%. Як выявілася, толькі адзін з сямідзесяці работнікаў зарабляе больш за 20 мільёнаў рублёў.

### «Хоўм Крэдыт Банк» закрывае больш за палову аддзяленняў

На працягу студзеня-лютага спыняюць працу 19 з 33 аддзяленняў чэшскага банка, які спецыялізаваўся на спажывецкіх крэдытах пад высокія стаўкі. Рэарганізацыя тлумачыцца «зменай мадэлі бізнэсу і актыўным развіццём дыстанцыйнага абслугоўвання кліентаў». Банк будзе прадстаўлены толькі ў абласных цэнтрах, а таксама ў Баранавічах і Наваполацку.

### У Віцебску разарылася фабрыка пельменяў

Збанкрутавала СТАА «Кухня Майстра» з брытанскім і беларускім капіталам, якое запрацавала ў 2004 годзе. Выраблялі паўфабрыкаты бліноў, дранікаў, мантаў, пельменяў, хінкалі і чабурэкаў.

### Расія прыпыняе крэдытаванне іншых краін

Расія будзе вымушаная сёлета ўзяць паўзу ў прадастаўленні новых крэдытаў замежным пазычальнікам, аднак усе раней прынятыя абавязацельствы будуць выкананыя, заявіў намеснік міністра фінансаў Расіі Сяргей Старчак.

**ЯМ**

**Зварот чытачоў**

# «Карповіч-груп» сабрала з людзей грошы, а дом не здае

Дом у Мінску на скрыжаванні вуліц Мележа, Бяды, Меліярацыйнай, Літаратурнай пачалі будаваць у канцы 2013.

Забудоўшчык, ТАА «Карповіч-груп», абяцаў здаць будынак яшчэ ў чэрвені 2015 года. Але і па сёння людзі чакаюць свае кватэры, хаця дом амаль што гатовы.

Людзі губляюць грошы — многія жывуць у здымных кватэрах, чакаючы свайго жылля. Але гэтае чаканне зацягваецца. Асноўная прэтэнзія — невядома, калі канкрэтна дом нарэшце здадуць. Яны пішуць лісты гендырэктару фірмы Дзмітрыю Карповічу, скардзяцца, а толку няма.

«Кватэра ў гэтым доме каштуе больш за $130 тысяч. У 2014 мы прадалі сваю ранейшую кватэру, набылі аблігацыі. Праплацілі здымную кватэру на год, разлічвалі, што наступным летам пераедзем. І вось, невядома што. Прычым спрабаваць свае вярнуць грошы бессэнсоўна — у аблігацыях цэны прапісаны ў беларускіх рублях. А з 2014 года рубель патаннеў удвая, — расказвае Таццяна, адна з кліентак Карповіча. — Адзіны выхад — чакаць. Калі Карповіч не зможа дабудаваць, будуць шукаць новага забудоўшчыка, які «забярэ» дом. Але гэта зноў чаканне. А колькі яшчэ чакаць?»

Да скаргаў далучаецца і Аляксандр, які таксама ўклаўся ў будоўлю.

«Я сам жыву ў Германіі. Узяў там крэдыт, аплаціў будоўлю кватэры. Разлічваў, што атрымаю жыллё максімум у жніўні, буду здаваць і за гэты кошт аплочваць крэдыт на яе. Але кватэры няма, — абураецца мужчына. — І ў мяне сітуацыя дрэнная: крэдыт плаціць трэба, а няма чым. І кожны месяц запазычанасць расце, я зараз баюся ў Германію вяртацца, бо мяне могуць «закрыць» за той крэдыт».

Па словах кліентаў Карповіча, забудоўшчык кажа, што цяпер у яго не вельмі добра з грашыма. Самі яны ўжо падазраюць, што іх грошы пайшлі «налева».

«Інакш мы не можам патлумачыць тое, што адбываецца. Нядаўна стала вядома, што ў Карповіча арыштаваныя рахункі, яго офісы таксама апісаныя банкам, — кажа Таццяна. — Мы ведаем, што і арганізацыі, якія працавалі з Карповічам на гэтай будоўлі, таксама чакаюць ад яго грошай».

Тым часам, абураюцца людзі, у інстаграме жонкі Карповіча з'яўляюцца фота сямейнага адпачынку на Кубе.

«Мы мяркуем, што такім чынам Карповіч проста хоча перачакаць крызіс. Ці чакае, каб яго даўгі патаннелі. Чакае за наш кошт», — кажуць кліенты забудоўшчыка.

Меркаванне забудоўшчыка даведацца не ўдалося — гендырэктар кампаніі Дзмітры Карповіч не здымае слухаўку.


Дзмітры Карповіч на Кубе. Фота з інстаграма яго жонкі Святланы

Але Карповіч адказаў сваім кліентам на іх калектыўны зварот, прыслаўшы ліст, у якім сцвярджаецца, што дом будзе гатовы ў першым квартале 2016 года. Просьбу жыхароў прадаставіць ім справаздачу — на што пайшлі іх грошы — забудоўшчык праігнараваў, заявіўшы, што гэта «не абавязак, які прапісаны ў дамове».

**Улад Швядовіч**

# Пад алкаголем, раней судзімы, але не маньяк: што ўяўляе з сябе тыповы асуджаны да расстрэлу

У пачатку студзеня быў вынесены чарговы расстрэльны прысуд. 49-гадовы Генадзь Якавіцкі быў асуджаны за забойства сужыцелькі. Гэтую гісторыю робіць унікальным той факт, што за савецкімі часамі жыхар Вілейкі ўжо атрымаў смяротны вырак, які, праўда, пасля абскарджвання быў заменены на працяглы тэрмін. Ягоная сітуацыя — важкі аргумент і для прыхільнікаў захавання смяротнага пакарання, і для іх апанентаў.

Якавіцкаму даравалі жыццё, але ён выйшаў на волю і зноў забіў, кажуць першыя. Але калі мэта смяротнага пакарання — застрашэнне патэнцыйных забойцаў, то яна абсалютна не працуе, парыруюць іншыя. Хто, як не Якавіцкі, разумеў, што такое расстрэл?

«Наша Ніва» сістэматызавала гісторыі вынясення смяротных прысудаў за апошні час — адкуль паходзіць злачынца, дзе адбылося забойства, ці стала яго прычынай ужыванне алкаголю.

Раней грамадскасць надавала расстрэлам значна менш увагі — складана знайсці нават імёны асуджаных за 1990–2000-я. Цяпер сітуацыя змянілася, хоць улады па-ранейшаму замоўчваюць большасць «смяротных справаў».

Найбольш шчыльна са справамі асуджаных на расстрэл працуе кампанія «Праваабаронцы за адмену смяротнага пакарання». Яе каардынатар Андрэй Палуда адказаў на пытанні «Нашай Нівы».

**«Наша Ніва»: У пачатку 1990-х да расстрэлу штогод прысуджалі 20—30 чалавек. Цяпер лічба апусцілася да двух-трох чалавек. Гэта сведчыць пра тое, што грамадства стала больш цывілізаваным?**

**Андрэй Палуда:** Уплывае ўвядзенне альтэрнатыўных мераў пакарання, напрыклад, з'явілася пажыццёвае зняволенне. Раней была альтэрнатыва — ці 15 гадоў, ці расстрэл. І калі злачынства было вельмі сур'ёзным, для суддзі было складана прымаць рашэнне.

Таксама мае значэнне, што грамадства больш пільна сочыць за гэтымі кейсамі. Праваабаронцы пастаянна звяртаюць на гэта ўвагу, вынесена шэсць рашэнняў Камітэта ААН па правах чалавека.



Ну, і злачыннасць вельмі моцна звязана з эканамічным чыннікам. У 1990-я існавалі розныя іерархічныя крымінальныя структуры накшталт банды Марозава, банды «пажарнікаў». Я баюся прагназаваць, але, калі ўзровень жыцця ў краіне будзе падаць, узровень злачыннасці можа вырасці. І ніякае смяротнае пакаранне не будзе стрымліваючым фактарам.

**«НН»: Ці магчыма скласці партрэт тыповага «смяротніка»?**

**АП:** Кожная гісторыя індывідуальная, але агульныя рысы, вядома ж, ёсць. Гэтыя людзі з'яўляліся прадстаўнікамі арганізаванай крымінальнай злачыннасці? За рэдкім выняткам — не. З'яўляліся маньякамі? Не. Злоўжывалі спіртнымі напоямі альбо наркатычнымі рэчывамі? Як правіла — так. Былі раней судзімымі? Большасць — так. Вельмі яскравая рэч — тое, што ў абсалютнай большасці гэтыя злачынствы былі побытавымі.

Возьмем гарадзенскую гісторыю Бурдыкі і Грышкаўцова за 2010 год. Яны разам адбывалі пакаранне. Калі вызваліліся, адзін прыехаў да другога ў госці. Яны некалькі дзён пілі ў вялікай кампаніі разам з сужыцелькай Грышкаўцова, яе бацькам і сяброўкай. Шэсць разоў (!) бацька званіў у міліцыю, прасіў: «Прыйдзіце, разганіце іх, не даюць жыць». А яго пасылалі ў адказ: «Дзед, бензіну няма ездзіць. Вы там п'яце кожны дзень, што да вас катацца». Чым скончылася? Яны ўсіх пазабівалі...

**«НН»: Большасць асуджаных на расстрэл раней мелі судзімасці, аднак зноў здзейснілі злачынствы. Ці можна гэта лічыць недапрацоўкай пенітэнцыярнай сістэмы, якая мае на мэце выпраўленне асуджаных?**

**АП:** Гэта пытанне прафілактыкі злачынстваў. За пяць-сем год знаходжання ў беларускай турме псіхіка руйнуецца настолькі, што яе немагчыма аднавіць. У грамадства вяртаюцца людзі, якія не ведаюць, як тут жыць. Праграм для адаптацыі фактычна не існуе. Усё сканчваецца прымітыўным наглядам — прыходзь і адзначайся.

Прычым адаптацыі няма і для сваякоў ахвяраў. Маці студэнткі, забітай Груновым, прасіла ў судзе: расстраляйце яго. Дзяржава адказала: «Добра, расстрэльваем. Вы задаволеныя?» А хто ведае лёс гэтай маці? Хто з ёй працуе, які псіхолаг? Яна засталася з партрэтам сваёй дачкі.

**«НН»: Кожная «расстрэльная» гісторыя выклікае шырокае абмеркаванне ў грамадстве. Але, калі паглядзець на рэакцыю інтэрнэт-каментатараў, шмат хто шкадаваў толькі студэнта Селюна (які забіў жонку з каханкам) і тэрарыстаў Кавалёва з Канавалавым. Пад астатнімі абмеркаваннямі большасць аўдыторыі хутчэй падпісвалася пад выракам «расстраляць».**

**АП:** Пытанне смяротнага пакарання палягае ў эмацыйнай плоскасці. Калі паказаць вочы маці забітых, вынікі апытанняў становяцца іншымі. І гэта пацвярджае тое, што такое пытанне не павінна выносіцца на рэферэндум. Гэта мусіць быць палітычным крокам.

Стаўленне да гісторыі Кавалёва і Канавалава паказвае, што грамадства сумнявалася ў выніках расследавання і справядлівасці прысуду, хоць дзяржава прыкладала ўсе намаганні. І пасля такой рэакцыі ў 2012 годзе не было вынесена ніводнага расстрэльнага прысуду.

Бывае і так, што грамадскасць не ведае акалічнасцяў. У 1998 годзе не за сваю віну быў расстраляны малады хлопец Іван Фамін. Злачынцы з асаблівай жорсткасцю забілі таксіста. Ён трапіў пад уплыў мясцовых крымінальных аўтарытэтаў, якія сказалі: давай, малы, вазьмі віну на сябе, нічога табе за гэта не будзе. А тут яго раптам асудзілі да расстрэлу... Алкаеў (былы начальнік СІЗА №1 Мінска, дзе выконваюцца прысуды — **«НН»**) узгадваў, што, калі Фаміна вялі на расстрэл, ён казаў: «Які ж я быў дурань».

**Ягор Марціновіч**

**Прысуджаныя да смяротнага пакарання**

| № | Імя асуджанага | Прысуд | Узрост | Месца нараджэння | Месца злачынства | Алкаголь | Ранейшыя | Ахвяры |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Андрэй Жук | 2009 | 25 | Салігорскі раён | Салігорскі раён | + | Несудзімы | Кіроўца і эканаміст, якія везлі заробак |
| 2 | Васіль Юзэпчук | 2009 | 30 | Валынская вобл., Украіна | Драгічынскі раён | | | Шэсць сталых жанчын |
| 3 | Алег Грышкаўцоў | 2010 | 29 | Гродна | Гродна | + | Судзімы | Сужыцелька, яе бацька і сяброўка |
| 4 | Андрэй Бурдыка | 2010 | 28 | Сахалінская вобл., Расія | Гродна | + | Судзімы | Сужыцелька знаёмага, яе бацька і сяброўка |
| 5 | Ігар Мялік | 2011 | | Гомельшчына | Магілёўшчына | | | Чатыры забойствы замежнікаў на дарозе |
| 6 | Уладзіслаў Кавалёў | 2011 | 25 | Віцебск | Мінск | | Не меў судзімасцяў | Тэракт у метро, 11 загінулых |
| 7 | Дзмітрый Канавалаў | 2011 | 25 | Віцебск | Мінск | | Не меў судзімасцяў | Тэракт у метро, 11 загінулых |
| 8 | Рыгор Юзэпчук | 2013 | 45 | Жытомірская вобл., Украіна | Турма ў Магілёве | | Судзімы сем разоў, у тым ліку за двайное забойства | Сукамернік |
| 9 | Павел Сялюн | 2013 | 23 | Вілейка | Гродна | | Не меў судзімасцяў | Жонка і яе каханак |
| 10 | Аляксандр Груноў | 2014 | 26 | Гомель | Гомель | + | Нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў, што прывяло да смерці | Знаёмая студэнтка |
| 11 | Эдуард Лыкаў | 2014 | 53 | Масква, Расія | Мінскі раён | + | Крадзеж, разбой, нясплата аліментаў | Пяць забойстваў |
| 12 | Сяргей Іваноў | 2015 | 21 | Рэчыца | Рэчыца | + | Хуліганства, крадзяжы, рабаванне | Знаёмая кухарка ў рэстаране |
| 13 | Іван Кулеш* | 2015 | 28 | Баранавічы | Лідскі раён | + | Крадзеж, разбой, ілжывы данос | Тры прадавачкі |
| 14 | Генадзь Якавіцкі* | 2016 | 49 | Грузія | Вілейка | + | Хуліганства, забойства, згвалтаванне, нясплата аліментаў | Сужыцелька |

*прысуд не ўступіў у законную сілу і можа быць абскарджаным.

# «Лайфньюс»: Палкоўнік ФСБ збег з Беларусі ў Расію

**У МУС не збіраюцца каментаваць публікацыю.**

Былога супрацоўніка ФСБ Расіі, палкоўніка ў адстаўцы, абвінавацілі ў пагрозе здзяйснення тэракту ў аэрапорце Мінска, паведамляе расійскі тэлеканал «Лайфньюс».

Ён заявіў, што яго збівалі і вымусілі прызнацца ў пагрозах работнікам аэрапорта. Як сцвярджае былы расійскі афіцэр спецслужбаў, ён прыбыў на тэрыторыю Беларусі з сынам на пахаванне маці.

Ён сцвярджае, што ў пункце нагляду яму прапанавалі разуцца і надзець бахілы. «На гэта я папрасіў не ставіцца да мяне прадузята і дадаў, што сам былы вайсковец. Мяне з сынам адразу адвялі ў адмысловы пакой, адкуль даставілі ў пракуратуру», — сцвярджае расіянін.

Па словах расіяніна, яго збівалі, пагражалі затрыманнем сына, пасля чаго ён прыняў рашэнне пагадзіцца з абвінавачваннем і прызнаць віну.

«Я вырашыў, што, будучы на свабодзе, змагу хутчэй вырашыць гэтае пытанне, і падпісаў дакументы. Пад вартай я знаходзіўся 10 дзён, — піша ён. — За гэты час мой сын злятаў у Маскву і сабраў патрэбную для грашовага закладу суму», — распавядае расіянін.

Ён сцвярджае, што заклад склаў у эквіваленце 5000 долараў. Былы супрацоўнік спецслужбаў сцвярджае, што ён збег у Расею праз адкрытую мяжу, бо баяўся ехаць цягніком ці самалётам.

Расіянін заяўляе, што яго ў Мінску абвінавацілі ў пагрозе тэракту і што падчас службы ён працаваў якраз у аддзеле па супрацьдзеянні экстрэмізму і тэрарызму.

Як патлумачылі «Нашай Ніве» ў Міністэрстве ўнутраных спраў, дадзены грамадзянін няўдала пажартаваў у пункце нагляду, што ў яго ёсць бомба. Адпаведныя службы зрэагавалі на такую заяву згодна са службовымі інструкцыямі. Пад варту жартаўніка-«палкоўніка» не змяшчалі. Кастрычніцкі райаддзел Следчага камітэта праводзіць праверку па гэтай справе.

На пытанне, ці затрыманы з'яўляецца палкоўнікам ФСБ, нам адказалі, што «ніякія палкоўнікі ФСБ або грамадзяне Расійскай Федэрацыі ў аэрапорце не затрымліваліся».

Агулам справа мела месца паўтара месяца таму.

Матэрыял жа «Лайфньюса» наша крыніца назвала тым, «пра што няма чаго размаўляць, нават каментаваць не збіраемся».

**Арцём Гарбацэвіч**

# Ярмошына вярнулася з Парыжа: «Я была ахвярай піяру, як і ўсе астатнія»

Кіраўніца Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына вярнулася з падарожжа ў Парыж.

У адрозненне ад адпачынку ў Італіі, у Францыю яна паляцела адна, без сына.

Авіябілеты Мінск—Парыж—Мінск каштавалі 480 еўра. Арганізаваць падарожжа дапамагала беларуская амбасада.

«Я была ахвярай піяру, як і ўсе астатнія. Парыж — гэта горад, які на 50% — плён удалага піяру. Вядома, яго апела так шмат вялікіх людзей, ён зрабіўся калыскай такой колькасці прадстаўнікоў мастацтва, што гэта само па сабе стварыла яму нейкі адмысловы міф чагосьці асаблівага. Калі параўноўваць па турыстычных аб'ектах, то Парыж непараўнальны з Рымам. Рым — сапраўды вялікі горад з вялікай архітэктурай. А Парыж у XIX стагоддзі быў перакроены, што зрабіла яго зручным для жыцця. Былі знесены старыя дамы, пастаўленыя новыя. Але яны настолькі аднолькавыя, што я параўноўвала з 3-й вуліцай Будаўнікоў, але, вядома, вуліцай будаўнікоў XIX стагоддзя», — расказала Ярмошына ў інтэрв'ю «Камсамольскай праўдзе».

Старшыня ЦВК паспела наведаць кабарэ «Мулен Руж». Білет каштаваў 117 еўра.

Віза Ярмошынай дзейнічае да 29 лютага. Тады ж будзе вырашацца, ці адменяць санкцыі ў адносінах да яе і іншых беларускіх чыноўнікаў.

Калі візы не будзе, Ярмошына ў кастрычніку плануе наведаць Ізраіль.

**Чытайце: kp.by.**





## Памёр акцёр Алан Рыкман — прафесар Северус Снег

На 69-м годзе памёр брытанскі акцёр Алан Рыкман, піша газета *The Guardian*.

Смерць акцёра пацвердзілі яго сваякі. Ён памёр ад раку.

Алан Рыкман — вядомы акцёр, адна з яго роляў — прафесар Северус Снег у «Гары Потэры».

Рыкман нарадзіўся ў 1946 годзе ў Лондане, а першая роля ў кіно адбылася ў далёкім 1978 годзе. Ён з'яўляецца лаўрэатам прэстыжнай прэміі «Залаты глобус», якую атрымаў у 1997 годзе за тэлефільм «Распуцін», у 2011 годзе яго таксама адзначылі кубкам MTV за ролю ў Патэрыяне. Гледачы ведаюць Рыкмана па ролях у фільмах «Моцны арэшак», «Догма» і «Каханне насамрэч». У Злучаным Каралеўстве Рыкман добра вядомы як тэатральны акцёр, сябра Каралеўскай шэкспіраўскай кампаніі.

У 2012 г. Алан Рыкман разам з іншымі вядомымі акцёрамі (у тым ліку з Рэйвам Файнсам) на просьбу Свабоднага тэатра заступіўся ў відэазвароце за беларускіх палітвязняў.

## Чаму ў Еўропе грэчка зялёная, а ў нас карычневая?

Мы прывыклі купляць у краме грэцкія крупы прыгожага арэхавага колеру. У некаторых краінах Еўропы грэчка прадаецца бледна-зялёная. Чаму так?

Грэчка не з'яўляецца злакам. Яна належыць да сям'і *Polygonaceae* (драсёнавыя), якая таксама ўключае шчаўе і рэвень. Яе навуковая назва — *Fagopyrum Esculentum*.

Грачанае зерне памерам з зерне пшаніцы, але прытым яно мае ўнікальную трохкутную форму. Для таго, каб грачанае зерне можна было спажываць у ежу, яго абшалушваюць. Пад ім знаходзім сырое зерневае ядро, якое мае зялёны колер.

Сырую (зялёную) грэчку падпражваюць. Па-першае, гэта скарачае час прыгатавання. Па-другое, гэта дадатковая абарона супраць патагенных арганізмаў, якія вельмі любяць неапрацаваныя прадукты. Па-трэцяе, апрацаваная, пражаная грэчка набывае прыгожы карычневы колер і арэхавы водар.

А можа, і нам трэба перайсці на зялёную нясмажаную грэчку? Не, уласцівасці грэчкі мала мяняюцца пры праражанні.

Грэчка — надта смачны і карысны прадукт.



**Дарэчы**

Ці ведаеце вы, што яе вельмі смачна змяшаць напалову з аўсянкай?

Вараную грэчку можна падмешваць у супы і рагу, яны тады робяцца гусцейшымі і з іншым смакам.

Грэчка выдатна спалучаецца з грыбамі.

## Шуфлі для ўборкі снегу: цэны ў «Еўраопце» і ЦУМе

Зараз як ніколі кіроўцам і ахвотным жыхарам Мінска спатрэбяцца шуфлі. «Наша Ніва» завітала ў ЦУМ і «Еўраопт» каб параўнаць цэны на патрэбны цяпер інструмент.

У «Еўраопце» выбару няма: прадаецца ўсяго адзін від шуфляў, і тое невялікіх. Каштавалі яны 162 тысячы. (Гэта па стане на 12 студзеня. Пры нашым «стабільным» жыцці на гэтым тыдні цэны маглі ўжо вырасці.)

У ЦУМе, відавочна, рыхтаваліся да зімы, таму на пятым паверсе шырокі асартымент шуфляў. Пры гэтым пластыкавы ад драўлянага адрозніваецца ўсяго на 400 рублёў. Каштуе каля 110 тысяч.

**Мікіта Недаверкаў**




### Уладзімір Арлоў стаў лаўрэатам балгарскай міжнароднай літаратурнай прэміі «Алека»

Прэмія, заснаваная ў 1966 г. і названая ў гонар класіка балгарскай літаратуры XIX ст. Алека Канстанцінава, прысуджаецца за літаратурныя творы гумарыстычнага зместу.

Цырымонія ўзнагароджання адбылася гэтымі днямі ў родным горадзе А.Канстанцінава — Свіштаве.

Сярод ранейшых лаўрэатаў прэміі «Алека» — Генрых Бёль, Уільям Сараян, Марыс Друон, Марці Ларні, Васіль Аксёнаў ды іншыя вядомыя пісьменнікі. Па-балгарску творы У.Арлова загучалі дзякуючы знакамітай перакладчыцы Пенцы Кыневай.

### Бескантактавыя тралейбусы і электробусы могуць з'явіцца ў Гродне, Лідзе і Смаргоні

Бескантактавыя тралейбусы і электробусы выйдуць на гарадскія лініі ў Гродзенскай вобласці. Пра гэта паведаміла БелТА начальнік аддзела энергетыкі, транспарту і сувязі Гродзенскага аблвыканкама Наталля Прылепская.

На абнаўленне тралейбуснага парка рэгіёна з абласнога бюджэту будзе накіравана каля Br6,6 млрд. Акрамя звычайных тралейбусаў, плануецца закупіць чатыры эксперыментальныя машыны, якія змогуць перамяшчацца па дарогах, не абсталяваных кантактнай лініяй.

Выкарыстанне падобнага гарадскога транспарту пазітыўна адаб'ецца і на экалагічнай абстаноўцы ў горадзе.

На гарадскіх вуліцах збіраюцца выпрабаваць новыя тралейбусы беларускай вытворчасці двух тыпаў. Адны могуць ехаць у аўтаномным рэжыме да 100 км. Другія — з падзарадкай батарэй на канцавых прыпынках.

Калі яны сябе добра зарэкамендуюць, то экалагічна чысты транспарт з'явіцца не толькі на вуліцах Гродна, але і Смаргоні, Ліды.

**На сэрцы**

# Дылер



Піша **Андрэй Дынько.**

Сядзелі мы ў машыне, чакалі дачку. На стаянчацы за ЦУМам у Мінску, каля Пушкінскай бібліятэкі. Гэта каля метро «Якуба Коласа», калі хто слаба Мінск ведае.

Дачка пайшла ў краму пасля канцэрта, а мы сядзім. Была субота, каля 16.00.

Нейкі хлопец ходзіць тудысюды. Без курткі, без шапкі, углядаецца ў людзей. Нармальны з выгляду, не выклікае трывогі, проста некага чакае. Стрыжка кароткая, без жывата хлопец, падцягнуты, гадоў дваццаці васьмі.

Зусім каля нашай машыны падыходзіць да яго другі хлопец, у шэрай куртцы, капюшон на галаве. Паціснулі рукі. Той, што без курткі, таму другому дае дзве купюры — заўважыў я, што дзве, не пабачыў якія. А той, што ў капюшоне, у далонь першаму — не на раскрытую далонь, а так, нібы другі раз парукаліся, — паклаў пакецік, такі як чайны, ведаеце такія даражэйшыя чаі, у фольгавых яркіх пакецiках.

І разышліся. Распрануты папёр у суседні доўгі дзевяціпавярхоўік, а каторы ў капюшоне — застаўся.

Вось так! Прадаюць спайсы проста ў цэнтры Мінска. Тыя спайсы, пад якімі адзін аднаму вочы лыжкай выкалупвае, брат сястру рэжа.

Гэта было настолькі відавочна! Проста ў нас на вачах. Ён нас не бачыць, мы яго бачым.

Праз хвіліну — дачкі ўсё няма, яшчэ адзін хлопец да капюшона падышоў — гады 22, проста, але акуратна апрануты. З выгляду — як студэнт суседняга БДУІР.

Пасля яшчэ двое падышлі — туркменскага выгляду. Гэтыя атрымалі ад хлопца ў капюшоне цэлы пакет і, здаецца, нічога яму не перадалі.

Так здарылася, што мне ў той дзень кепска зрабіў копію ключа майстар, што ў ЦУМе сядзіць. Наступны дзень я быў у горадзе і рашыў заехаць перарабіць. Было каля 16-ці. Ізноў той самы хлопец у тым самым капюшоне наразае кругі між дзетсадком і ЦУМам. Відна, няма там камер відэаназірання. Думаю, дай паназіраю. Падыходзіць да дылера новы кадр, не той, што ўчорашнія.

Здымаць іх на фота? Ну і што на тым кадры будзе: два чалавекі вітаюцца.

Званіць у міліцыю? То жалезныя доказы трэба мець. А раптам невінаватага падставіш?

Але 98%, што гэта яны.

Чалавек у шэрай куртцы з капюшонам — банальнае зло побач з намі. Ён думае купіць сабе лёгкае жыццё за грошы, зробленыя на наркотыках, а будзе гніць на нарах.

# Мулявіну магло б быць 75

12 студзеня Пясняр мог бы адзначыць юбілей. Усе ведаюць ягоныя песні, але многія не ведаюць некаторых фактаў яго біяграфіі.



**Продкі былі заможнымі сібірскімі купцамі**

Яны мелі свае магазіны, былі адукаванымі. Савецкая ўлада рэпрэсавала іх. І ўжо бацька Уладзіміра, Георгій Мулявін, быў простым рабочым на заводзе «Уралмаш». Георгій сышоў з сям'і да іншай жанчыны, пакінуўшы жонку з трыма дзецьмі.

**Не меў музычнай адукацыі**

Яго першым настаўнікам музыкі быў палітвязень Аляксандр Наўроцкі. Гэты выпускнік Харкаўскага інстытута культуры і былы вязень сталінскіх лагераў першым разгледзеў у Мулявіне талент і каласальную працаздольнасць. Наўроцкі займаўся са сваім выхаванцам па шэсцьсем гадзін у суткі, і ў выніку Мулявін паступіў у Свярдлоўскае музычнае вучылішча. Ён вучыўся на аддзяленні народных інструментаў, а самастойна асвоіў гітару, фартэпіяна і стварыў джаз-бэнд. Мулявін не меў скончанай музычнай адукацыі, бо яго адлічылі за «нізкапаклонства перад заходняй музыкай».

**Песні пісаў на досвітку**

між 4-й і 9-й гадзінамі раніцы.

**Прымаючы на працу ў «Песняры»,**

прасіў праспяваць куплет з «Белавежскай пушчы». Калі прэтэндэнт браў верхнія ноты, ён меў шанец.

**Тры жонкі, чацвёра дзяцей**

У 1959 18-гадовы Мулявін ажаніўся з артысткай Лідзіяй Кармальскай, якая выступала ў рэдкім жанры мастацкага свісту. У 1961 у іх нарадзілася дачка Марына, а ў 1975 — сын Уладзімір. У тым самым годзе шлюб з Кармальскай распаўся, і Мулявін ажаніўся са Святланай Слізскай. У 1976 у іх нарадзілася дачка Вольга. Другі шлюб пратрымаўся да 1981, калі Мулявін, развёўшыся, ажаніўся з акцёркай Святланай Пенкінай. У 1982 ва Уладзіміра і Святланы нарадзіўся сын Валерый.

**Брата забілі, сын загінуў ад наркотыкаў**

Брат Уладзіміра, Валерый Мулявін, загінуў у Ялце ў 1973-м, пасля канцэрта. Міліцыя агучыла версію: упаў на парапет і разбіўся. Але «пясняр» Уладзіслаў Місевіч сцвярджаў у інтэрв'ю, што Валерыя забілі крымінальнікі — прайгралі ў карты. Валерый Мулявін пахаваны на Чыжоўскіх могілках Мінска.

Трагічнай была і смерць сына Уладзіміра Мулявіна — таксама Уладзіміра. Як дзве кроплі вады падобны на бацьку, ён быў музыкам і супрацоўнічаў з дзяржаўнымі «Песнярамі». Пасля быў асуджаны за распаўсюд наркотыкаў і ў 2006 сканаў у зняволенні. Прычынай смерці, як паведамлялася, было працяглае ўжыванне наркотыкаў.

Самога Мулявіна пад канец жыцця былыя калегі звінавацілі ў злоўжыванні алкаголем. З гэтага і пачаліся расколы ў ансамблі, калі з'явіліся «Беларускія песняры» і іншыя асколкі былой велічы.

Вось такім няпростым быў жыццёвы шлях музычнага генія.

**СМ**

Далучайся!




## Стартавала акцыя «Я за беларускую мову на Еўрабачанні-2016!»

Гурт *Navi* запускае акцыю ў падтрымку сваёй беларускамоўнай песні «Гэта Зямля», з якой 22 студзеня выступіць у фінале адборачнага тура «Еўрабачання-2016».

«Беларуская — адна з найбольш мілагучных моў Еўропы. Толькі чамусьці за 12 гадоў удзелу Беларусі ў «Еўрабачанні» нашыя прадстаўнікі не выканалі ніводнай песні па-беларуску! Давайце зробім так, каб беларуская мова і песня нарэшце загучалі на ўвесь свет», — заклікаюць арганізатары. Яны прапануюць галасаваць за №6.

Шоу будзе транслявацца ў жывым эфіры на «Беларусь-1» і «Беларусь-24», а таксама ў рэжыме *online* на сайтах *tvr.by* і *eurovision.tv*. Пачатак а 22:00.

Сёлета ўпершыню пераможцу нацыянальнага адбору вызначаць гледачы з дапамогай тэлефоннага і СМС-галасавання.

## ЕГУ выдаў кнігу Генадзя Сагановіча

«Грунвальд у беларускай гісторыі: спроба разбору палітычнага міфу».

Новая кніга гісторыка Сагановіча прысвечана бітве пад Грунвальдам як факту грамадскай свядомасці — яе «пасмяротнаму жыццю» ў гістарычнай думцы.

Навіны з космасу

## Вядучы БТ: «Наўрад ці Google успрыме «ў» нескладовае»

Арганізатаркі «Беларускай інтэлектуальнай гульні» былі гасцямі перадачы «Добрай раніцы, Беларусь» на тэлеканале «Беларусь-1». Адна з дзяўчын пачала расказваць, што ў спаборніцтвах забаронена карыстацца мабільнымі тэлефонамі, шукаць падказку ў інтэрнэце. На гэта вядучы перадачы сказаў: «Вельмі складана задаць пытанне гуглу, бо гугл наўрад ці ўспрыме «ў» нескладовае. Альбо ў тэлефоне ў кагосьці яно ёсць? У гэтым ёсць пэўная складанасць».

У якім свеце жыве гэты чалавек?

# Новыя беларускія крамы Мінска

З'явіліся новыя месцы з **нешаблонным асартыментам.**

**Кнігарня «Галіяфы»**
(вул.Старавіленская, 6)

«Галіяфы» пераехалі ў Траецкае прадмесце. Акрамя продажу кніг, там ладзяцца імпрэзы і творчыя вечарыны. Можна набыць таксама сувеніры, саколкі, карціны.

**Этнацэнтр «Рагна»**
(вул. Караля, 22 / вул.Сухая, 4)

Утульная крамка з ужытковымі рэчамі — керамікай, кошыкамі, аздежай, упрыгожаннямі, вырабамі з дрэва — існавала і раней. Цяпер этнацэнтр атрымаў і другі паверх у тым жа будынку. У вялікай зале можна выставіць на продаж і калекцыю тканін, і куфры, і нават бандарныя вырабы. Тамсама можна набыць і адзенне фірмы *Honar*.



**Афлайн-крама LSTR**

Крама гэтага андэграўнднага брэнда адзення знаходзіцца ў той жа зале, на другім паверсе этнацэнтра «Рагна». Тут можна набыць фірмовыя джынсы, байкі і якасныя вышыванкі.

**«Мой родны кут»**
(ГЦ «Маскоўска-Венскі», пр. Незалежнасці, 58, пав.333)

Тут можна «адзець» сябе, сваякоў, кватэру, машыну і г.д. У краме ёсць маленькія і вялікія памеры, прадаюцца байкі, шапкі ды шалікі, вопратка на кожную пару года. Цана адпавядае якасці. Імаверна, даступнасць і стала сакрэтам поспеху тых жа вышымаек. Яны прадаюцца ўсяго за 200 тысяч.

**«Беларуская Прастора»**
(ГЦ «Маскоўска-Венскі», пав.205)

Тут вам дапамогуць сабраць дзіця ў школу. Ёсць усё неабходнае. Таксама зможаце набыць сувенір ці іншы падарунак для сваіх сябровак, дзяўчыны хлопца. Кожны тавар ў краме мае беларускую, нацыяльную афарбоўку.

**Мікіта Недаверкаў**

Кіно

## Восем злачынцаў у адным пакоі

Агідная васьмёрка
**Жанр:** трылер, драма, камедыя, вестэрн
**Рэжысёр:** Квенцін Таранціна
**У ролях:** Курт Расэл, Сэмюэл Л. Джэксан, Цім Рот, Майкл Мэдсан, Джэніфер Джэйсан Лі, Уолтан Гогінс, Дэміян Бішыр, Брус Дэрн
**Адзнака:** 7

ЗША пасля грамадзянскай вайны. Легендарны паляўнічы за галовамі Джон Рут, па мянушцы Вешальнік, канваіруе злачынцу Дэйзі Домерг праз заснежаныя прасторы Ваёмінга ў Рэд-Рок, каб аддаць яе ў рукі правасуддзя і атрымаць узнагароду. Па дарозе да іх прыбіваюцца яшчэ адзін паляўнічы і шэрыф Рэд-Рока. Завіруха змушае іх шукаць прытулку ў карчме, дзе ўжо размясцілася вельмі няпростая кампанія: генерал, мексіканец, француз і каўбой... І нехта з іх — не той, за каго сябе выдае.

Дзеянне адбываецца падчас страшнага снежнага бурану. Цалкам магчыма, што Таранціна меў на ўвазе Вялікую мяцеліцу 1888, адну з самых моцных завей у гісторыі краіны.

Па словах Квенціна Таранціна, ідэя фільма навеяная вестэрнамі 1960-х. «Мне падабаецца ў вестэрнах тое, што можна паглядзець палову фільма, пакуль зразумееш, добры гэта персанаж або дрэнны. А вось калі такіх хлопцаў замкнуць недзе, ды каб звонку бушавала завіруха, і даць ім зброю, то будзе цікава паглядзець, што з гэтага выйдзе», — расказаў вядомы рэжысёр.

У стужцы надзвычайная колькасць крывавых сцэн, разбаўленых доўгімі размовамі персанажаў. Тут фільм мала чым розніцца ад папярэдніх твораў рэжысёра.

Здымкі адбываліся ў штаце Каларада, на ранча Шмід на плаcкагор'і каля Тэлурыда і на 900 акрах прылеглай зямлі. На здымачнай пляцоўцы адмыслова падтрымлівалася нулявая тэмпература.

Гэта восьмы фільм Таранціна, і шосты раз ён працуе разам з Сэмюэлам Л. Джэксанам.




«Васьмёрка» засвяцілася на ўсіх буйных кінафестывалях. Яна атрымала «Залаты глобус» — 2016 за найлепшы саўндтрэк, які стварыў для фільма Эніа Марыконэ. На «Оскары»-2016 фільм прадстаўлены таксама ў намінацыях «Найлепшая жаночая роля другога плана» (Джэніфер Джэйсан Лі) і «Найлепшы сцэнар».

**Настасся Уласава**

# Пачаўся суд па «справе трох прафесараў» БНТУ

У мінскім гарадскім судзе пачаўся разгляд справы выкладчыкаў БНТУ, якіх абвінавачваюць у прысваенні грашовых сродкаў.

Спачатку ў справе фігуравалі чатыры выкладчыкі ўніверсітэта — трое прафесараў з кафедры «Машыны і тэхналогія ліцейнай вытворчасці» механіка-тэхналагічнага факультэта БНТУ і жонка аднаго з іх. Але прафесар Давыд Кукуй загінуў у аўтамабільнай аварыі. Таму на судзе толькі трое абвінавачаных.

Гэта 74-гадовы Уладзімір Собалеў, які, дарэчы, пасля няшчаснага выпадку (ён загарэўся на ўласнай кухні) мае вялікія праблемы са зрокам і слыхам. У снежні 2015 ён атрымаў інваліднасць 2-й групы і пакінуў пасаду прафесара.

Таксама ў справе абвінавачваюцца Аляксандр Чычко, які працягвае працаваць у БНТУ на пасадзе прафесара, і яго жонка Вольга, дацэнт Рэспубліканскага інстытута высокіх тэхналогій БНТУ.

Сваёй віны не прызнае ніхто з фігурантаў справы.

Цікава, што і муж, і жонка Чычко вырашылі адмовіцца ад адвакатаў.


Уладзімір Собалеў і Вольга Чычко.


Аляксандр Чычко дае каментар БТ.

«Па-першае, я даведаўся, колькі каштуюць паслугі кваліфікаванага спецыяліста. Гэта дорага, больш за 6 мільёнаў за пасяджэнне. А ў мяне месячны заробак — 6 мільёнаў, — кажа Аляксандр Чычко. — Па-другое, нашая справа вельмі спецыфічная, гэта вузкая спецыялізаваная галіна, у якой адвакат проста не будзе мець досведу. А па-трэцяе, у гэтай справе адвакат можа аказаць адмоўны ўплыў, напрыклад, калі будзе супрацоўнічаць са следчымі», — каментуе сваё рашэнне Аляксандр Чычко.

Чычко падалі хадайніцтва аб спыненні крымінальнай справы. Яны сцвярджаюць, што былі проста выканаўцамі работ, прычым выконвалі іх у пазапрацоўны час. А крыміналу ў іх дзеяннях не было.

«А нам хочуць прыпісаць злоўжыванне паўнамоцтвамі. Як імі можна злоўжываць, калі аніякіх паўнамоцтваў мы не мелі?» — абураюцца навукоўцы.

«Я падам цэлы том скаргаў. Бо тое, што тут напісана, — толькі малая колькасць таго, што рабілі ў дачыненні да нас. Малая частка незаконнасці», — кажа Аляксандр Чычко.

У паводзінах Аляксандра Чычко можна заўважыць хваляванне, але ў цэлым ён трымаецца спакойна, нават, можна сказаць, упэўнена.

«Грошы мы адпрацавалі як трэба. Прычым грошы за тры гады складаюць не такую вялікую суму, прыкладна па 2 мільёны на месяц на 2—3 чалавек. Тым больш яны [следчыя] лічбы не ўмеюць складваць: там на 10 мільёнаў завысілі, там на 100... А ўвогуле, там столькі памылак... Я іх пакажу пазней, яны здзівяцца! — падзяліўся сваім меркаваннем з «Нашай Нівай» Аляксандр Чычко. — Калі мяне будуць дапытваць, я буду даваць поўныя адказы, каб яны разабраліся. Пракурор — нармальны чалавек, проста яго падставілі, яму падкінулі гэтую справу. Проста следчым трэба апраўдаць неяк 2,5 года сваёй працы».

І ён, і Собалеў лічаць, што ў справе прысутнічаюць арыфметычныя памылкі з лічбамі. Навукоўцы ўпэўненыя, што гэта робіцца, каб «падагнаць» іх справу пад цяжкае злачынства.

Хадайніцтва Чычко аб спыненні крымінальнай справы суд адхіліў.

Нагадаем, што «справа прафесараў» пачалася ў 2013 годзе. Навукоўцаў абвінавацілі ў крадзяжы 200 мільёнаў бюджэтных сродкаў. На той час гэта было больш за 65 тысяч даляраў у эквіваленце. Сцвярджалася, што трое прафесараў стварылі злачынную групу адмыслова для гэтага.

У 2007 годзе прафесарскі склад кафедры, азнаёміўшыся з тым, што трэба беларускім металургам, узяўся распрацаваць тры праграмныя комплексы для іх.

Галіновая камісія ў складзе больш чым дзесяці чалавек разгледзела гэтыя заяўкі і ўхваліла іх. Пасля гэтага прафесары і атрымалі тое фінансаванне з бюджэту. У 2010 годзе работы былі завершаны. Камісія зноў жа іх прыняла, не выказаўшы заўваг. Але ў 2011 годзе з'явілася заключэнне іншых спецыялістаў, што выкананая прафесарамі праца на самай справе не мае ніякай вартасці і што ў ёй выкарыстаны старыя, ужо аплачаныя раней напрацоўкі.

Цікава, што якраз у 2011 годзе Аляксандр Лукашэнка і Камітэт дзяржаўнага кантролю паднялі пытанне аб ліпавых навуковых работах. Маўляў, дзяржава выдзяляе велізарныя сродкі на беларускую навуку, а яна выдае прадукт, які не мае практычнай каштоўнасці.

І ў 2011 годзе КДК пачаў актыўна займацца прафесарамі. Ствараецца спецыяльная камісія, яна пацвярджае, што распрацоўкі старыя. Прафесары лічаць, што ў камісію ўвайшлі людзі, якія знаходзяцца з імі ў непрыязных адносінах.

У БНТУ паступае ўказанне пакрыць нанесеную дзяржаве шкоду. Рэктар патрабуе гэтыя грошы з прафесараў. Выконваючы ўказанне рэктара, прафесары амаль цалкам кампенсуюць так званую шкоду і трапляюць у юрыдычную пастку: раз пакрылі — значыць, прызналі факт.

Сёння прафесараў абвінавачваюць у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі, што прывяло да шкоды ў буйным памеры. Ім пагражае да 10 гадоў зняволення з канфіскацыяй маёмасці.

Улад Швядовіч

## На Эльбрусе загінуў 33-гадовы мінскі бізнэсмен

Дзмітрый Рубін жыў у Мінску. Ён узначальваў вялікую будаўнічую кампанію.

Свой адпачынак ён вырашыў правесці ў гарах — адправіўся на Эльбрус 3 студзеня. Мужчына ўзыходзіў на вяршыні не ўпершыню — летась ён быў у Гімалаях.

На Эльбрус ён адправіўся разам з двума напарнікамі з Крыма.

Трагедыя адбылася 12 студзеня падчас спуску на паўднёвым схіле Эльбруса на вышыні прыкладна 4900 метраў, у раёне скал Пастухова.

Адзін з удзельнікаў атрымаў абмаражэнне і павярнуў назад. Двое астатніх павярнулі назад таксама. Некалькі разоў яны падалі. Вядома, што Рубін пашкодзіў сцягно.

У выніку адзін з альпіністаў сам дабраўся да лагера. Другога крымчаніна знайшлі ратавальнікі, ён жывы. А беларуса шукалі чатыры дні. Некалькі разоў пошукі прыпынялі праз пагаршэнне надвор'я.

Толькі ў другой палове дня 16 студзеня ўпраўленне МНС Расіі па Кабардзіна-Балкарыі паведаміла, што знойдзена цела зніклага турыста.



Бывалыя альпіністы кажуць, што такія трагедыі здараюцца ў тым ліку таму, што людзі ходзяць у горы з выпадковымі прыяцелямі, з якімі знаёмяцца праз інтэрнэт. Для складаных узыходжанняў групы альпіністаў павінны быць вельмі зладжанымі.

Чытайце: tut.by

## 5 гадоў абмежавання волі за ДТЗ з картэжам прэзідэнта

Жыхарка Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці, вінаватая ў ДТЗ з удзелам машыны з картэжу суправаджэння Лукашэнкі, прыгавораная да пяці гадоў абмежавання волі без накіравання ў калонію.

ДТЗ мела месца 5 ліпеня 2015 года на аўтадарозе Орша — Шклоў — Магілёў недалёка ад вёскі Александрыя. Як паведамляў Следчы камітэт, каля 21.00 23-гадовая жыхарка Шклоўскага раёна за рулём «БМВ», у салоне якога знаходзілася шэсць чалавек, выехала на паласу сустрэчнага руху, дзе яе аўтамабіль сутыкнуўся з мікрааўтобусам «Мерсэдэс-Спрынтар». Ён знаходзіўся ў складзе арганізаванай транспартнай калоны ў суправаджэнні транспартных сродкаў аператыўнага прызначэння з уключанымі маячкамі сіняга і чырвонага колераў.

У выніку сутыкнення кіроўца і тры пасажыры «Мерсэдэса» атрымалі цялесныя пашкоджанні.

Кіроўца «БМВ» прызнаная вінаватай у парушэнні правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці прычыненне цяжкага і менш цяжкага цялеснага пашкоджання. Ёй прызначанае пакаранне ў выглядзе абмежавання волі на тэрмін пяць гадоў без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу з пазбаўленнем права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартнымі сродкамі, тэрмінам на пяць гадоў.

Прысуд абскарджаны не быў і набыў законную моц 5 студзеня 2016 года.

Суд Оршы разглядаў гэтую справу на закрытым пасяджэнні.

УШ

## Сцісла

### Выпіла і забіла паленам

У Рэчыцы жанчына забіла вяскоўца драўляным бруском. Высветлілася, што пасля распіцця спіртнога яны пасварыліся. Жанчыну затрымалі.

### Дзіця ўпала ў калодзеж, але выжыла

У Ашмянах знік 5-гадовы хлопчык. Яго знайшлі праз некалькі гадзін у каналізацыйным калодзежы. Снег змякчыў падзенне, дзіця не пацярпела.

### Забіў за доўг

У мазырскай бальніцы наведнік ударыў нажом пацыента, якога раней збіў. Мужчына праз нейкі час памёр у рэанімацыі. Забойцу затрымалі. Ён кажа, што забіты быў яму вінаваты грошы і ён так яму помсціў.

### Асцярожна, са стрэх падае снег

У Мінску ад падзення снегу з даху гіпермаркета атрымала траўмы 14-гадовая дзяўчынка. Яе даставілі ў бальніцу, на шчасце, траўмы аказаліся няцяжкія.

### Паляўнічыя на каштоўнасці

У Мінску 16 студзеня абрабавалі ювелірны салон. Трое невядомых у масках прымусілі прадаўца легчы на падлогу, разбілі шэсць вітрын і ўцяклі з ювелірнымі вырабамі. Кошт скрадзенага і асобы злачынцаў высвятляюцца.

УШ

# «Нашто з майго сына робяць забойцу?»

**У «Нашу Ніву» звярнулася Зінаіда Малашка са Слоніма, маці асуджанага за забойства хлопца.**

Жанчына сцвярджае, што яе сын не вінаваты — гэта проста збег абставінаў і незразумелая ініцыятыўнасць пракуратуры.

10 лістапада 2013 года двое яе сыноў, 23-гадовы Дзмітры і малодшы на два гады Яўген, выршылі наведаць мясцовы клуб «Оскар», патанчыць. Пасля дыскатэкі, каля трэцяй гадзіны ночы, хлопцы вярталіся дамоў. Далей адбылася кананічная сустрэча з незнаёмай кампаніяй. У Яўгена папрасілі цыгарэту. Ён даў. Тады яму загадалі: «Частуй усіх!» Слова за слова, пачалася бойка — Яўген атрымаў у твар і самлеў. Дзмітры таксама прапусціў пару ўдараў, але ён і даў адпор, у сваю чаргу ўдарыўшы некаторых з нападнікаў. Кампанія збегла.

Тым часам людзі пабачылі бойку і выклікалі міліцыю. Калі праваахоўнікі прыехалі, то знайшлі толькі двух братоў Малашкаў. Іх забралі ў аддзяленне, але хутка адпусцілі. Заяву пісаць браты не сталі.

«Па паказаннях хлопцаў з той кампаніі, пасля яны накіраваліся ў краму. Там набылі віно і пілі да раніцы на бліжэйшым прыпынку. Каля 8 гадзіны разышліся. Адзін з хлопцаў, 25-гадовы Віталь, прыйшоў дахаты разам з сябрам. Там яны разам з маці Віталя выпілі яшчэ трохі, пра гэта і маці, і сябар узгадвалі на судзе», — кажа Зінаіда Малашка.

На наступны дзень нічога асаблівага не адбываецца. Але наступным ранкам Віталь пачынае адчуваць сябе не надта добра. Маці выклікае хуткую, хлопца забіраюць у бальніцу. Раніцай 14-га лістапада Віталь памірае. Як будзе вызначана, з прычыны закрытай чэрапна-мазгавой траўмы і кровазліцця ў мозг.



У той жа дзень, 14 лістапада, у міліцыю забіраюць братоў Малашка. Яўгена ўвечары адпускаюць, Дзмітрыя — не. Высветлілася, што калі Віталь трапіў у бальніцу, то пра яго траўмы паведамілі ў міліцыю. Яшчэ пакуль ён быў жывы, міліцыянты дапрасілі яго сяброў і даведаліся пра начную бойку.

У СІЗА Дзмітры правёў амаль паўгода. Вясной 2014-га ў Слоніме адбыўся суд. Дзмітрыя прызналі вінаватым у забойстве па неасцярожнасці. Хлопец атрымлівае тры гады з адтэрміноўкай, застаецца на волі, але пад наглядам міліцыі.

Але пракуратура падае скаргі — прысуд для яе занадта мяккі. Малашкі пра гэта не ведаюць, сцвярджае Зінаіда, жывуць спакойна. Дзмітры нават паступае ў Лідскі каледж, на завочнае.

У выніку Вярхоўны суд адмяняе папярэдняе рашэнне, справу адпраўляюць на дадатковае расследаванне. Летам 2015-га праходзіць новы суд. Дзмітрыю мяняюць меру пакарання. Хлопец атрымлівае тры гады «хіміі».

На гэты раз скаргі пішуць і пракуратура, і сям'я Малашкаў. Першыя лічаць, што прысуд ізноў надта мяккі, другія — што, наадварот, зажорсткі.

Але не паспявае Дзмітры з'ехаць на «хімію», як гродзенскі суд адмяняе і гэтае рашэнне слонімскага суда. Справу перадаюць у Навагрудак. І ў лістападзе праходзіць чарговы суд, трэці, ужо ў Навагрудку. Вырашаюць, што Дзмітры вінаваты ў наўмысным прычыненні цяжкага цялеснага пашкоджання, якое па неасцярожнасці прывяло да смерці пацярпелага. А гэта зусім іншы артыкул. Адпаведна, і пакаранне іншае — хлопец атрымлівае 7,5 гадоў калоніі.

Хлопец звычайны, працаваў наладчыкам на мясцовым папяровым заводзе. Суседзі і знаёмыя ўзгадваюць яго добрым словам. Жыхары мікрараёна Альбярцін, дзе жывуць Малашкі, нават пішуць калектыўны ліст у падтрымку Дзмітрыя — больш за 300 подпісаў.

«Нашто з майго сына робяць забойцу? Я не разумею. Нашто? — пытаецца маці Дзмітрыя. — Пратэст пасля першага суда пісалі не бацькі загінулага, а намеснік галоўнага пракурора рэспублікі. Як гэта? Чаму менавіта ён? Пасля я размаўляла з братам загінулага. Ён пацвердзіў, што ані ён, ані маці да той скаргі дачынення не маюць».

Зінаіда лічыць прысуд несправядлівым.

«На першым судзе хлопцы з той кампаніі казалі пра нейкага Саіда, які, калі яны пілі на прыпынку, таксама ўдарыў Віталя, то бок ужо пасля бойкі з маім сынам. Гэта спачатку фігуравала ў матэрыялах справы, потым чамусьці знікла, — кажа Зінаіда Малашка. — Плюс у загінулага было больш за 20 траўматычных пашкоджанняў і ўсе яны датуюцца тэрмінам 4—7 дзён да смерці. То бок хто там яшчэ яго біў, і калі — невядома. Прычым у матэрыялах праверкі фігуруюць словы маці Віталя, якая ўзгадвае бойку каля крамы. Але ў крымінальнай справе ўжо чамусьці пра гэта нічога няма».

Зінаіда сцвярджае, што знайшла сведку — жанчыну, якая бачыла ўсю бойку.

«Тая жанчына кажа, што міліцыя з ёй таксама размаўляла, але сказалі: «Вашыя паказанні не супадаюць з паказаннямі астатніх сведкаў». І яе паказанняў у крымінальнай справе таксама няма», — кажа Зінаіда.

Цяпер Дзмітры «сядзіць» пад Баранавічамі. Неўзабаве яго адправяць у папраўчую калонію нумар 3, больш вядомую як «Віцьба». Маці збіраецца і далей пісаць скаргі, звяртацца ў Вярхоўны суд. У тое, што яе сын не вінаваты, яна верыць. А ў тое, што яе высілкі дапамогуць...

«Я ў гэта павінна верыць. Бо што мне яшчэ застаецца?» — перакanана Зінаіда.

**Улад Швядовіч**

## Страляў па міліцыянтах — сеў на 25 гадоў

У Віцебску вынеслі прысуд 25-гадоваму мужчыну з пасёлка Калодзішчы Мінскага раёна. За серыю разбойных нападаў на крамы і замах на забойства міліцыянтаў ён атрымаў столькі ж гадоў калоніі, колькі пражыў на свеце.

Крамы мужчына рабаваў у верасні-кастрычніку 2014, пры гэтым выкарыстоўваў агнястрэльную зброю.

Ён раней не быў судзімы. Мае дзве юрыдычныя адукацыі — сярэднюю спецыяльную і вышэйшую. На момант затрымання нідзе не працаваў.

За два месяцы ён абрабаваў пяць крамаў у Смалявіцкім раёне і Оршы. Прычым адзін з гандлёвых аб'ектаў «браў» двойчы. Агульная сума, «зробленая» рабункамі, — каля 20 мільёнаў рублёў.

Затрымалі злачынцу 30 кастрычніка 2014 у Оршы пасля чарговага абрабавання. Прадаўцы паведамілі ў міліцыю пра зламысніка, які зайшоў у краму, заявіў, што гэта абрабаванне, запатрабаваў грошы, а для пераканаўчасці пачаў страляць: двойчы ў паветра, а раз у нагу прадаўца.

Затрымалі рабаўніка на чыгуначным прыпынку за колькі хвілін да прыбыцця цягніка. У яго знайшлі два пісталеты і выбуховае прыстасаванне. Апрануты ён быў у бронекамізэльку, а падчас затрымання пяць разоў стрэліў у міліцыянтаў. Страляў прыцэльна — у вобласць жыццёва важных органаў, паведамляе прэс-служба абласнога суда. Але міліцыянты атрымалі толькі лёгкія цялесныя пашкоджанні.

Агнястрэльную зброю і боепрыпасы зламыснік незаконна купіў, выбухоўку зрабіў сам. Таксама ён удасканаліў перароблены ў гладкаствольную агнястрэльную зброю сігнальны рэвальвер.

На судзе хлопец тлумачыў, што, па-першае, ён хацеў такім чынам дапамагчы хворай маці, а па-другое — збіраўся выдаткаваць грошы на «акцыю міласэрнасці». Суд пакараў яго 25 гадамі зняволення з канфіскацыяй маёмасці. Першыя пяць гадоў злачынца правядзе ў турме, рэшту — у калоніі ўзмоцненага рэжыму.

**Улад Швядовіч**

## Збег з месца ДТЗ

ДТЗ адбылося 12 студзеня, каля 0.00, на 22-м км трасы Р-23 Мінск — Слуцк — Мікашэвічы.

— Каля вёскі Беліца кіроўца «Опеля» няправільна выбраў хуткасць і не ўлічыў стан дарогі, з-за чаго машына з'ехала з трасы і ўрэзалася ў асвятляльную мачту, — распавялі ў ДАІ Мінскай вобласці. — Ад удару аўтамабіль разарвала на часткі.

68-гадовая пасажырка *Opel* загінула на месцы аварыі. Жонку кіроўцы і 5-гадовую дачку знайшлі ў бальніцы. Дзяўчынка атрымала чэрапна-мазгавую траўму, множныя ўдары і ранкі галавы і твару.

Кіроўца-віноўнік ДТЗ з месца збег. Яго затрымалі на наступны дзень — мужчына хаваўся ў падвале ў суседзяў.

«Па яго словах, пасля аварыі ён разам з жонкай і пацярпелай дачкой, не чакаючы прыезду хуткай дапамогі і супрацоўнікаў ДАІ, паехаў на спадарожным аўтамабілі ў медустанову. Загінулая жанчына-пасажыр засталася на месцы аварыі. У бальніцы малую дзяўчынку з маці шпіталізавалі, а сам кіроўца з'ехаў на таксі дадому. Затым накіраваўся да суседзяў, дзе хаваўся ў склепе ад сваякоў загінулай пасажыркі», — сказалі ва УУС.

Па факце ДТЗ распачатая крымінальная справа. Мужчыну пагражае да 5 гадоў зняволення.

**УШ**

## Калядоўнікі напалі

**Два 18-гадовыя хлопцы трапілі ў ізалятар часовага ўтрымання пасля «калядавання».**

У чацвярых хлопцаў, якія адзначалі Новы год у адной з вёсак Лунінецкага раёна, пасля выпітых сямі бутэлек гарэлкі жаданні падзяліліся: двое заснулі непрабудным сном, а дваім захацелася працягу.

Як пасля растлумачылі маладыя людзі, яны адправіліся «на пошукі кахання». Завіталі ў адну з хатаў.

— П'яныя маладыя людзі сталі спяваць калядкі, патрабуючы грошай і бутэльку гарэлкі, аднак гаспадары папрасілі іх сысці, патлумачыўшы, што яшчэ не пара калядаваць. Тады адзін з гасцей накінуўся на гаспадара, схапіў яго за кашулю і разарваў яе, — распавёў парталу «Медыя-Палессе» намеснік начальніка Лунінецкага райаддзела Следчага камітэта Леанід Ванюкоў.

Абураны мужчына выпхнуў хуліганаў за дзверы. Тыя знялі ў двары браму і сталі кідаць у дом тратуарнай пліткай. Гаспадар выклікаў міліцыю. Хуліганаў затрымалі. Адзін з іх аказаўся навучэнцам Баранавіцкага каледжа, а другі — работнікам мясцовага сельгаспрадпрыемства.

На хлопцаў завялі крымінальную справу за хуліганства. Ім пагражае да шасці гадоў пазбаўлення волі.

**УШ**

## Паехаў, выпіў і «згубіў» пасажыра

Трактарыст з двума супрацоўнікамі сельскагаспадарчага прадпрыемства выпіваў у кабіне трактара проста на хаду. Адзін з мужчынаў выпаў з кабіны і загінуў. А яго сабутэльнікі вырашылі схаваць цела.

Петрыкаўскім раённым аддзелам Следчага камітэта завершана расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да трактарыста-машыніста сельскагаспадарчага прадпрыемства «Чалюшчавічы», дзеянні якога прывялі да гібелі работніка прадпрыемства.

2 кастрычніка мінулага года абвінавачваны на трактары «Беларус» з прычэпам вывозіў з палёў зялёную масу ад кормаўборачных камбайнаў. Днём трактарыст заехаў на мехдвор прадпрыемства для рамонту прычэпа. Пасля ліквідацыі паломкі паехаў назад на поле ўжо разам з двума работнікамі. Нягледзячы на тое, што тэхнічнай характарыстыкай кабіны трактара не прадугледжаная перавозка пасажыраў, трактарыст пасадзіў у яе выконваючага абавязкі галоўнага агранома і электрагазазваршчыка.

Па дарозе кіроўца і пасажыры распівалі спіртныя напоі. Прыкладна а 19 гадзіне, калі трактар ужо з загружаным прычэпам рухаўся па дарозе, выпадкова адчынілася задняе акно кабіны, на якое якраз абапіраўся адзін пасажыраў-сабутыльнікаў, электрагазазваршчык. Як высветлілася, прылада на акне была няспраўнай ужо год як (дарэчы, яе зламалі падчас крадзяжу з трактара акумулятараў). Пасажыр выпаў з кабіны і ўпаў пад кола прычэпа. Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў ён памёр на месцы здарэння.

Трактарыст з другім пасажырам вырашылі не выклікаць міліцыю, а замесці сляды. Трактарыст адвёз цела загінулага з месца здарэння і пакінуў на абочыне. Ноччу ён вярнуўся на машыне, перавёз цела ў лясны масіў і закапаў.

Праз два дні, 4 кастрычніка, у Петрыкаўскі РАУС паступіла паведамленне ад сужыцелькі загінулага. 29-гадовы трактарыст прадпрыемства зацікавіў следчых.

«У ходзе карпатлівай працы праваахоўнікаў ад аднавяскоўца пацярпелага паступіла яўка з павіннай. Мужчына распавёў аб ДТЗ і паказаў месца, дзе схаваў цела загінулага пасажыра», — паведаміла Марыя Крываногава, афіцыйны прадстаўнік СК па Гомельскай вобласці.

Таксама следчыя высветлілі, што з боку службовых асоб КСУП «Чалюшчавічы» не ажыццяўляўся кантроль за працай работнікаў, што спрыяла парушэнням працоўнай дысцыпліны. Паказальна, што пры судова-хімічным даследаванні ў крыві загінулага знайшлі 4,79 праміле спірту.

Акрамя таго, адзначылі следчыя, на прадпрыемстве не быў наладжаны кантроль за станам сельскагаспадарчай тэхнікі; своечасовым выяўленнем і ліквідацыяй няспраўнасцяў, якія ўплываюць на бяспеку дарожнага руху; выпускам і вяртаннем транспарту на мехдвор.

Трактарыст змешчаны пад варту, распачата крымінальная справа. Мужчыну пагражае да 7 гадоў пазбаўлення волі.

На сённяшні дзень крымінальная справа вывучана пракурорам і накіравана для разгляду ў суд Петрыкаўскага раёна.

# Рудольф Пішчала: жыццё і апала

Піша гісторык-архівіст **Зміцер Дрозд**.


МАЛЮНАК СЯРГЕЯ ХАРЭЎСКАГА

Словазлучэнне «Пішчалаўскі замак» чулі многія. Назва гэта ўжо архаізм, як і «Валадарка». Цяпер правільней называць гэты аб'ект СІЗА №1. Пра міфы і легенды, звязаныя з будынкам і яго будаўніком Рудольфам Пішчалам, мы распавядалі ў артыкуле «12 міфаў пра Пішчалаўскі замак: абвяржэнне» на сайце NN.BY. Цяпер пазнаёмімся бліжэй з легендарным «графам Пішчалам» — і гэта будзе першая біяграфія чалавека, які пакінуў такі прыкметны помнік гісторыі і архітэктуры Мінска.

Рудольф Пішчала не быў ні архітэктарам, ні ўласнікам «гатычнага замка». У 1821, калі ў Мінску востра паўстала пытанне аб будаўніцтве новай турмы, ён прапанаваў самую выгадную цану і выйграў тэндар (ці, як тады называлі, публічныя таргі) на яе пабудову.

На той час яму было 33 гады. Нарадзіўся ж наш герой у шляхецкай сям'і харунжага коннай гвардыі войскаў ВКЛ Станіслава Пішчалы і Кацярыны з роду Прысецкіх 7 красавіка 1788 у фамільным маёнтку Гарадзішча на паўднёвым захадзе ад Мінска, на берагах легендарнай ракі Менкі. Немаўля было ахрышчанае 2 кастрычніка ў Мінскім Марыінскім касцёле і названа Рудольфам-Міхалам. Ён быў прамым нашчадкам князёў Крошынскіх, якія вялі свой радавод ад Гедыміна.

У адрозненне ад біяграфіі Рудольфа, лёс яго бацькі Станіслава падрабязна вывучаны гісторыкам Фёдарам Чарняўскім (гл. другі том кнігі «Ураднікі Менскага ваяводства XVI—XVIII ст.»). Станіслаў быў сынам оберст-лейтэнанта войскаў ВКЛ Дамініка і Кацярыны з Мядускіх. Увогуле, род Пішчалаў адыгрываў не апошнія ролі ў Мінскім павеце і Аршанскім павеце Віцебскага ваяводства, хоць магнатамі іх не назавеш — уладанні абмяжоўваліся маёнткамі Гарадзішча, Грынькоў, Баслані, Боханаў, Бракавец. Мелі і пляц у Мінску на Раманаўскай слабадзе, дзе ў 1825 і была пабудавана турма.

Гэты род быў больш за трыста гадоў звязаны з легендарным Гарадзішчам. Бо менавіта тут, на думку некаторых даследчыкаў, і вырас першапачатковы Менск, які пасля «пераехаў» на месца ўпадзення Нямігі ў Свіслач. Гэтым маёнткам сям'я Пішчалаў валодала ўжо ў 1598, калі Іван Пішчала атрымаў ад караля і вялікага князя Жыгімонта III прывілей на правядзенне кірмашоў у мястэчку Гарадзішча.

## Тры сястры

Неўзабаве пасля нараджэння Рудольфа, 20 студзеня 1789, Станіслаў Пішчала атрымаў пасаду стражніка (адну з найніжэйшых у мясцовай іерархіі) Мінскага ваяводства. Пасада вызвалілася пасля сыходу ў адстаўку яго цесця Ігната Прысецкага. Памёр Станіслаў Пішчала 20 лістапада 1807 і пахаваны на Гарадзішчанскіх могілках. Маці Рудольфа Кацярына нашмат перажыла мужа і памерла ў 60 гадоў 29 сакавіка 1831 у Мінску, пакінуўшы пасля сябе, апроч сына Рудольфа, трох дачок. Яна пахаваная побач з мужам.

Тры сястры Рудольфа Пішчалы дажылі да сур'ёзнага веку: Караліна памерла ў 74 гады (1872), Тэкля ў 80 (1877), а Генрыета (1893) у 103 гады! Пахаваныя ўсе тры на Кальварыі, магілы захаваліся. Нягледзячы на багацце, замужам з трох сёстраў была толькі Караліна, па мужу Паржэцкая.

У Караліны і калежскага саветніка Язэпа Паржэцкага было трое дзяцей: Кацярына, Язэп і Генрых. У апошняга з жонкай Верай — таксама трое: Рудольф (відаць, названы ў гонар любімага дзядзькі), Язэп і Караліна, па мужу Веранбоўская, якім і перайшоў у спадчыну ў канцы XIX стагоддзя маёнтак Гарадзішча.

У 1811 Рудольф Пішчала скончыў Віленскі ўніверсітэт і пачаў сваю паўвекавую чыноўніцкую кар'еру. Пра займаныя ім пасады і асабліва абставіны звальнення будзе ніжэй.

## Развод

А 12 сакавіка 1811 у Мінскім Марыінскім касцёле адбылося вянчанне 23-гадовага Рудольфа Пішчалы і Юліі Ратынскай. Яны пражылі разам каля 15 гадоў, але так і не мелі дзяцей. І вось 17-га лютага 1829 у тым жа касцёле адбываецца вянчанне Рудольфа Пішчалы і 27-гадовай Сафіі, дачкі Людвіка і Ізабелы з Тэпераў, Камінскай Рэйтанавай. І Рудольф, і Сафія, як сведчыць метрычная кніга, разведзеныя. Развод у каталікоў немагчымы — можна толькі даказаць, што першы шлюб быў узяты з парушэннямі, а значыць, яго ніколі і не было. Відаць, Рудольф і Юлія «ўспомнілі» нейкую прычыну.


**На Кальварыі захаваліся пахаванні трох родных сёстраў Рудольфа Пішчалы.**

Найхутчэй, прычынай разводу стала адсутнасць дзяцей у шлюбе. У тыя часы вінаватай у гэтым звычайна лічылі жанчыну. І Юлія магла ўспрымацца як «бракаваная», у той час як у Сафіі быў важкі аргумент на яе карысць: трое дзяцей ад першага шлюбу.

Так, маладая была не дужа маладая ды, як цяпер кажуць, з «прычэпам». У Сафіі ад шлюбу з Дамінікам Рэйтанам (пляменнікам таго самага Тадэвуша Рэйтана, які пратэставаў супраць падзелу Рэчы Паспалітай) было трое дзяцей: Сцяпан, Людвіка і Алена.

Але Рудольфа гэта не спыніла, бо, па-першае, вялікае значэнне мелі багацце і ўплывовасць сям'і нявесты. Ажаніўшыся з Сафіяй, Пішчала ўвайшоў у мінскае найвышэйшае кола, што адпавядала і яго тагачаснаму высокаму становішчу — прэзідэнта (старшыні) 1-га дэпартамента Мінскага галоўнага суда. Падругое, род Пішчалаў знаходзіўся ў катастрафічным становішчы. Былі такія-сякія маёнткі, чыны і пасады, але не было спадкаемцаў мужчынскага полу. У 1845, пацвярджаючы шляхецтва свайго роду, Рудольф Пішчала напісаў, што «мужчынскага полу застаўся жывы адзін толькі просьбіт».

## Сям'я новай жонкі: касцюшкаўцы і банкіры

Прадстаўнікі новай сям'і Рудольфа-Міхала Пішчалы вартыя асобных біяграфічных даследаванняў. Вышэй мы пісалі пра Тадэвуша Рэйтана, але і яго пляменнік, першы муж Сафіі, быў не з баязлівых. У 1812 ён ваяваў на баку Напалеона. З Сафіяй Каменскай ажаніўся ўжо пасля вяр-


**Пішчалаўскі замак**

легендарная мінская турма. Збудаваная ў 1825 паводле праекту архітэктара Казіміра Хршчановіча і на замову памешчыка Рудольфа Пішчалы на тагачаснай ускраіне Мінска, на гары ў Раманаўскім прадмесці. У 1830—1831 праз турму праходзілі ўдзельнікі Лістападаўскага паўстання. У 1863—1864 — паўстанцы Каліноўскага. За гады існавання ў ёй давялося сядзець многім вядомым культурным і палітычным дзеячам, такім як пісьменнікі Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Карусь Каганец, Алесь Гарун, Якуб Колас (у турме ён пачаў пісаць «Новую зямлю»), будучы заснавальнік польскай дзяржавы Юзаф Пілсудскі, рэвалюцыянер-тэрарыст Іван Пуліхаў.

Калі ў савецкі час вуліцу, на якой стаіць замак, назвалі імем Валадарскага, за турмой замацавалася нефармальная назва «Валадарка».

Пабывалі на Валадарцы і палітыкі новага часу: Міхаіл Чыгір, Андрэй Клімаў, Андрэй Бандарэнка.

Ад 1999 распрацоўваюцца планы пераносу турмы з замка: будынак састарэў. У 2008 нават абвалілася яго заходняя вежа.


**Зміцер Дрозд**

гісторык-архівіст, аўтар кніг «Землеўласнікі Мінскай губерні 1861—1900», «Землеўласнікі Мінскай губерні 1900—1917». Пасля Плошчы-2010 быў асуджаны за ўдзел у «масавых беспарадках» на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Выйшаў на волю ў жніўні 2011.

# будаўніка Пішчалаўскага замка

тання з французскай арміі, пра што сведчаць даты нараджэння іх дзяцей (старэйшая дачка Людвіка нарадзілася ў 1822).

З радасцю вітаў войскі французаў у Мінску і бацька Сафіі — Людвік Каменскі, ветэран паўстання Касцюшкі. Супрацоўніцтва з «акупацыйнай уладай» не паўплывала на яго кар'еру: ён працягнуў выконваць свае абавязкі старшыні 1-га дэпартамента Мінскага галоўнага суда і пасля выгнання Напалеона. А ў 1819 Людвік Каменскі дасягнуў вяршыні кар'еры, заняўшы пасаду віцэ-губернатара Мінскай губерні.

Сям'я Каменскіх была не з бедных. Людвік меў дзве тысячы душ у маёнтках Рагозін і Даўгінава ў Вілейскім павеце.

Каб скончыць размову пра новых сваякоў Рудольфа Пішчалы, трэба расказаць пра сям'ю яго цешчы Ізабэлы — дачкі Пятра Тэпера дэ Фергюсана, аднаго з самых вядомых банкіраў свайго часу, багацце якога вымяралася мільёнамі. Наколькі было вялікае багацце, настолькі нечаканым было і банкруцтва падчас банкаўскага крызісу перад другім падзелам Рэчы Паспалітай, у 1792. Ізабела была перадапошняй з 13-ці дзяцей банкіра. На момант гібелі бацькі падчас «варшаўскіх хваляванняў» у красавіку 1794 ёй не было і 16-ці. Каля 1796 яна выйшла замуж за Людвіка Каменскага. Неверагодны лёс занёс дачку аднаго з найбагацейшых людзей Еўропы XIX ст., крэдытора польскага караля Станіслава Аўгуста, скарбніка і агента Мальтыйскага ордэна, масона, са сталічнай Варшавы ў правінцыйны тады Мінск.

Пра Ізабелу мы ведаем менш, чым пра яе знакамітага брата Людвіга-Вільгельма Тэпера дэ Фергюсана, музыку, які ў мемуарах «Мая гісторыя»данёс да нас партрэты славутых людзей таго часу (імператараў, каралёў, князёў, міністраў, паслоў, кампазітараў), з якімі быў знаёмы. Таксама ён быў настаўнікам музыкі дзяцей расійскага імператара Паўла І і выкладчыкам у Царскасельскім ліцэі, калі там вучыўся Пушкін.

### Заробкі і выдаткі

Вось у такую дзіўную сям'ю трапіў наш галоўны герой, на той момант ужо будаўнік «Пішчалаўскага замка». Ён і не меркаваў, што гэты будынак абяссмерціць яго імя. Удзел у публічных таргах на пабудову Мінскай турмы быў шараговым эпізодам камерцыйнай дзейнасці. Нам вядома, што Рудольф Пішчала, акрамя дзяржаўнай службы, актыўна выкарыстоўваў і магчымасці іншых заробкаў: удзельнічаў у аўкцыёнах, каб атрымаць выгадныя для сябе кантракты, арэнды або падрады.

Хоць Рудольф Пішчала займаў грашовую пасаду, меў маёнткі і дадатковыя заробкі, грошай яму бракавала. Пазыкі Рудольфа Пішчалы складалі больш за 10 тысяч рублёў срэбрам. Але і гэта не ратавала — даводзілася прадаваць і закладаць маёмасць. Так, у 1859 Рудольф і Сафія за 10 тысяч рублёў срэбрам прадалі маёнтак Грынькоў з прыналежнымі да яго вёскамі і сялянамі Соф'і Лясковіч.

### «Не належаў ні да якіх дэманстрацый»

Пра заўважную на мінскім небасхіле сярэдзіны XIX ст. кар'еру Рудольфа Пішчалы мы можам расказаць яго ж словамі — у 1865 77-гадовы былы чыноўнік даслаў на імя кіраўніка Мінскай губерні прашэнне прызначыць яму пенсію, у якім выклаў усе перыпетыі сваёй службы:

«Паступіў я на службу ў 1811 годзе, у маладыя гады, неўзабаве адбылося нашэсце непрыяцеляў, і я на працягу ўсяго таго часу не належаў ні да якой смуты, наадварот, як цалкам добранадзейны, у 1814 быў прызначаны членам Мінскага губернскага для ваенных павіннасцяў Камітэта, у якім праслужыў да 1816 года — гэта значыць, да яго закрыцця. Затым у 1817 абраны быў старшым суддзёй павятовага суда, і на гэтай пасадзе прабыў шэсць гадоў, пасля чаго быў абраны старшынёй Грамадзянскай палаты, далей старшынёй Крымінальнай палаты і Усяміласцівейша пажалаваны кавалерам ордэна Св.Уладзіміра 4-й ступені. У 1835 абраны быў павятовым прадвадзіцелем дваранства... Па заканчэнні трох гадоў зноў абраны быў старшынёй Грамадзянскай палаты ... Затым па Найвышэйшым загадзе 1840 прызначаны па Міністэрстве дзяржаўных маёмасцяў інспектарам люстрацыі... Тут атрымліваў узнагароды, сярод якіх у 1846 годзе абвешчана мне Манаршае Яго Імператарскай Вялікасці благаваленне. У 1851 вызвалены па прашэнні ад той службы з мундзірам і ў трэці раз абраны старшынёй Грамадзянскай палаты і Высачайша зацверджаны на гэтай пасадзе.

І так, займаючы розныя пасады на працягу паловы стагоддзя, я не быў ніколі заўважаны ў дзеяннях супраць волі Урада. З ранняга веку да сямідзесяці з лішкам гадоў жыцця служыў аддана і ў апошнія часы не належаў ні да якіх дэманстрацый, зацята пазбягаючы ўсяго, што мела б найменшы выгляд супраціву волі Урада. Я звярнуў самую моцную ўвагу на тое, каб у маім маёнтку ніхто з маёй прыслугі не меў ніякіх зносін з мяцежнікамі, і ў гэтым яны не належалі ні найменшаму падазрэнню. Падчас апошніх выбараў Дваранскіх супраціўляўся складанню пратакола і не падпісаў яго. Нарэшце, звольнены я са службы зусім 20.06.1863 года...

Карыстаючыся правам паводле закона 88 арт. 3 т. «Устава пра пенсіі» на атрыманне выслужанага пажыццёвага пенсіёна, маю гонар пакорна прасіць Ваша Правасхадзіцельства пра выхадатайнічанне такога для мяне па апошняй займанай мною пасадзе старшыні Грамадзянскага суда... Копію фармулярнага пра службу маю спіса дадаю».

У фармулярным спісе няма ніякіх адзнак пра ролю Пішчалы ў будаўніцтве Мінскага турэмнага замка, затое з яго відаць, што многія гады ён узначальваў розныя палаты суда — павятовага, крымінальнага і грамадзянскага, і, мяркуючы па ўсім, дзякуючы яго намаганням гэтая турма папоўнілася не адной тысячай зняволеных. Скончыў сваю кар'еру ён у вельмі высокім чыне сапраўднага стацкага саветніка, што адпавядае вайсковаму чыну генерал-маёра.

### Не перанёс удару

Звяртае ўвагу тое, што Пішчала ў прашэнні ўвесь час падкрэслівае свае вернападданніцкія пачуцці да начальства і расійскага дзяржаўнага светапогляду. Пішчала нібы апраўдваецца, каб развеяць падазрэнні. Гэта мела прычыну: 8 чэрвеня 1863 віленскі, гродзенскі і мінскі генерал-губернатар Мураўёў сакрэтным загадам №1277 пастанавіў «председателя Минской палаты гражданского суда действительного статского советника Пищалло немедленно удалить... от занимаемой должности и учредить за его действиями строгое секретное полицейское наблюдение». Гэтае рашэнне зацвердзіў і імператар. Пішчала стаў адным з пяць чыноўнікаў, звольненых тым загадам з розных ведамстваў у разгар паўстання Каліноўскага. Маладзейшыя за Пішчалу сябры па няшчасці былі яшчэ і высланыя ў Пермскую, Аланецкую ды Валагодскую губерні Расіі.

Такая несправядлівасць да старога служакі дабіла яго здароўе. У 1866 ён сканаў у маёнтку Гарадзішча і быў пахаваны на мясцовых могілках. Сафія ненадоўга перажыла мужа, памерла ў 1870, як сказана ў метрыцы, «ад сухотаў» і была пахаваная побач з ім. На жаль, спробы знайсці іх магілы пакуль не мелі поспеху...

А што ж з пенсіяй? Урэшце, Пішчалу яе далі, аднак ён яе не дачакаўся — памёр, пакуль ішла перапіска між ведамствамі. Тады з прашэннем пра атрыманне пенсіі мужа звярнулася ўдава. Зноў пачалася перапіска, ішла тры гады — і таксама рашэнне было станоўчае. Аднак і Сафія да яго не дажыла. Следам з тым самым пытаннем да ўладаў звярнуліся спадкаемцы-сёстры, але ім адказалі, што пенсія была прызначаная асабіста Пішчалу, і адмовілі.

# «Таксі», якое знялі не нашы




Рэжысёр Джафар Панахі. Аўтар сцэнара Джафар Панахі. Аператар Джафар Панахі. Прадзюсар Джафар Панахі.

«Таксі» паказвалі на «Лістападзе».

Вось што пісалі ў анатацыі мінскага фестывалю: «Па пярэстых людных вуліцах Ірана ездзіць жоўтае таксі, у якое сядаюць самыя розныя людзі. Яны шчыра выказваюць сваю думку, калі кіроўца задае ім розныя пытанні. А за рулём не хто іншы, як сам рэжысёр, Джафар Панахі. Падчас гэтых камічных і драматычных падарожжаў мабільная камера, усталяваная перад лабавым шклом, імкнецца захаваць дух іранскага грамадства»

Анатацыя замоўчвае, чаму сусветна прызнаны рэжысёр зняў такі «не зусім фільм». А здымаў ён на мабільнік, бо ўлады забаранілі яму здымаць фільмы, як і забаранілі пакідаць Іран. Гэта была яму кара за ўдзел у тэгеранскім майдане 2009 года, калі спрабавалі змяніць рэжым Ахмадзінежада. Амаль год прапрымалі Панахі ў турме, пад уплывам пратэстаў у свеце выпусцілі, але забаранілі працаваць.

Нягледзячы на гэта, у 2010 годзе, яшчэ ў чаканні прысуду, Панахі зняў дакументальную карціну пад назвай «Гэта не фільм», што кантрабандай трапіла на спецыяльны паказ Канскага кінафестывалю. Пазней на Берлінале была паказана «Закрытая заслона», створаная ў загарадным доме рэжысёра. І вось «Таксі» — сапраўдны шэдэўр у жанры «гэта не фільм». На Берлінскі фестываль яго таксама вывезлі кантрабандай, і ён там у 2015 годзе перамог.

«Таксі» знятае выключна проста. Дзве мабільныя камеры. Адна, замацаваная на прыборнай дошцы таксі, і другая, у руках школьніцы, пляменніцы Панахі, якую той падвозіць. Усё! Дзве!

Пры гэтым фільм зацягвае і здзіўляе. Ты не ведаеш, які паварот сюжэта будзе наступны. Ні за што не прадкажаш і канец — вось ні адзін з вас не прадкажа!



Сярод герояў кіно — і выпадковыя, і невыпадковыя людзі. Настаўніца, гандляр, праваабаронца, якая вязе ў турму перадачу для палітзняволенай... Рэжысёр і галоўны герой вымушана працуе таксістам, яго пазнаюць.

Панахі — азербайджанец па сваіх каранях.

Ён быў памочнікам у іншага вялікага іранца — К'ярастамі, і «Таксі» ў кінематаграфічным сэнсе нібы нітачкай цягнецца ад шэдэўра К'ярастамі, «Смак вішні».

Нікому з беларускіх рэжысёраў судом здымаць не забаронена. Ніхто з нашых кінарэжысёраў не быў затрыманы за ўдзел у прадэмакратычнай маніфестацыі. Усім ім даступна магчымасць здымаць на мабільную камеру. Але хто з іх так тонка назірае праблемы свайго грамадства? Хто з іх здымае без заказу? Тыповы беларускі рэжысёр «не лезе ў палітыку», і ў гэтым яго бяда. Ён у сутнасць рэчаў не лезе, прыкрываючы тую сутнасць рэчаў недарэчным для яе словам «палітыка».

Некаторыя беларусы пагардліва думаюць пра «чарнаж...». Але сучаснае беларускае кіно і блізка не параўнаецца з іранскім, казахскім, турэцкім ці нават новым афганскім. Гэта толькі адзін прыклад нашага культурнага ўпадку ў цэнтры Еўропы.

Геніяльныя творы культуры — а «Таксі» Панахі па-свойму геніяльны фільм — нараджаюцца тады, калі іх творцы маюць што сказаць. Тады не трэба мільёны, не трэба дазволы.

Рэкамендую пабачыць.

**Андрэй Дынько**

# «Арэна-Сіці» — дзікі сорам



Заехалі сёння ў «Арэна-Сіці» — пафасны гандлёвы цэнтр на праспекце Пераможцаў у Мінску, што каля Драздоў.

У падземнай паркоўцы (запаркаваліся на мінус другім паверсе) уся падлога залітая вадою. Мы перш падумалі, што гэта машыны наносяць коламі снег з дарогі. Пасля бачым — у многіх месцах са столі капае. Ці то працякае вада з верхняга паверха паркінга, ці то з вуліцы, але ёсць відавочныя праблемы з гідраізаляцыяй і водаадвядзеннем.

Ніхто не прыбірае тую ваду.

На дыбачках дакляпалі да эскалатараў. Вакол эскалатараў і на вышэйшых узроўнях — абіўка і тынкоўка ўспучыліся ад вільгаці, мусіць, нешта рэгулярна падцякае і тут. У многіх месцах, дзе рэгулярна цячэ, паздыманыя пліты столі, мусіць, і іх успучыла.

А гэта ж было збудавана два гады назад усяго, перад чэмпіянатам свету па хакеі.

Вярталіся з крам, адчулі таксама, якая загазаванасць стаіць у паркоўцы. Падазраю, што і вентыляцыя выкананая таксама халтурна, як і гідраізаляцыя будынка.

Дзікі сорам! І гэта ў пафасным цэнтры, у «залатым раёне».

І тут пытанні: а дзе быў аўтарскі нагляд і буднагляд, калі будавалі і здавалі? І чаму гэта цяпер так і функцыянуе, хіба гэта не разбурае будынак з сярэдзіны?

**Іван Панасюк, Мінск**

# Мытнікі Беларусі на ахове Расіі?

На ўрадавым сайце з'явілася цікавая інфармацыя: «У 2015 годзе мабільныя групы мытных органаў на беларуска-расійскім участку мяжы прадухілілі спробы перамяшчэння тавараў з парушэннем заканадаўства на суму Br90 млрд, паведамілі БелТА ў прэс-службе ДМК. «Беларускія мытнікі на пастаяннай аснове праводзяць маніторынг увозу і вывазу тавараў не толькі на знешнім контуры беларускай мяжы Еўразійскага эканамічнага саюза, але і на беларуска-расійскім участку дзяржмяжы. Сіламі мабільных груп мытных органаў на беларуска-расійскім участку дзяржмяжы спыняюцца спробы перамяшчэння тавараў з парушэннем заканадаўства», — падкрэслілі ў прэс-службе. У ДМК распавялі, што пры вывазе з Беларусі ў Расію, як правіла, выяўляюцца парушэнні, звязаныя з перамяшчэннем тавараў «санкцыйных» груп. У 2015 годзе выяўлена больш за 200 правапарушэнняў на суму Br49 млрд пры вывазе тавараў, якія прызначаліся расійскім спажыўцам. «У мэтах абароны беларускага спажыўца ад увозу недабраякаснай прадукцыі былі таксама спынены неаднаразовыя спробы ўвозу тавараў без неабходных таварасуправаджальных дакументаў, у тым ліку фітасанітарных, ветэрынарных сертыфікатаў. Так, у 2015 годзе спынена 225 спроб увозу ў Беларусь з тэрыторыі Расіі мяса, рыбы, малочнай прадукцыі, гародніны, садавіны, арэхаў і іншых тавараў з парушэннямі, часцяком у дачыненні да іх якасці, а таксама без наяўнасці неабходных таварасуправаджальных дакументаў на суму больш як Br40 млрд».

Пасля прачытання паведамлення прэс-службы ДМК узнікаюць пытанні: Хто плаціць або даплочвае мытнікам Беларусі за ахову эканамічнай прасторы Расеі? І другое пытанне: ці маюць права мытнікі Беларусі працаваць па сумяшчальніцтве ў інтарэсах іншай дзяржавы?

Як трапляе санкцыйны для Расіі тавар на мяжу Беларусі і Расіі? Наўрад ці яго дэсантуюць на парашутах кантрабандысты. Значыць, гэты тавар праходзіць мяжу Беларусі з краінамі ЕС і Украіны. А як, хочацца спытацца? Не праз тыя ж мытні? Цікава ведаць і лёс канфіскаванага тавару. Яго вяртаюць да зыходнага пастаўшчыка? А можа, садавіну і гародніну перадаюць дзецям у садкі? Ці не азначае праца мытнікаў на мяжы з Расіяй канец Мытнага і Еўразійскага саюзаў або яго замарозку?

Вельмі важнае пытанне нацыянальнай бяспекі: а ці ловяць беларускія мытнікі наркотыкі на мяжы з Расіяй? Калі не, то чаму?

Вось такі воз пытанняў на паведамленне прэс-службы ДМК. Хутчэй за ўсё, адказы на гэтыя пытанні мы не даведаемся. Напэўна, на іх ляжыць пячатка дзяржаўнай таямніцы. А той, хто задае гэтыя пытанні, можа патрапіць у разрад шпіёнаў. Толькі вось пытанне: якой краіны?

**Уладзімір Падгол**

### Вясёлыя карцінкі



**Калі б «Бітлз» трапілі ў Беларусь…**

### Прыватныя абвесткі

Шчыра спачуваем Алесю Сушу з прычыны смерці маці Клаўдзіі Міхайлаўны.

**Сябры-талакоўцы**

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# Вайна за незалежнасць: ці паўторыць Украіна тактыку Харватыі?

Піша Максім Маханькоў.

Узброены канфлікт на ўсходзе Украіны для многіх аказаўся поўнай нечаканасцю. Да вайны былі не гатовыя ні ўзброеныя сілы Украіны, ні органы ўлады. Канфлікт, прызваны «гібрыднай вайной», сур'ёзна збянтэжыў не толькі ўлады Украіны, але і кіраўніцтва НАТА.

Аднак вайна, так званая «гібрыдная», без афіцыйнага аб'яўлення, з выкарыстаннем інфармацыйна-псіхалагічных, эканамічных і сілавых інструментаў — з'ява няновая. Для таго, каб Украіна магла вырашыць для сябе праблему бяспекі і тэрытарыяльнай цэласнасці, можна звярнуцца да нядаўняга гістарычнага мінулага.

Можна знайсці шмат супольнага паміж цяперашнім расейска-ўкраінскім канфліктам і вайной за незалежнасць Харватыі.

У 1991 годзе Харватыя абвясціла незалежнасць. У той час у Харватыі пражывала значная сербская меншасць, якая не жадала аддзялення ад Югаславіі.

Цэнтральныя бялградскія ўлады падтрымлівалі канцэпцыю перагляду меж унутры Югаславіі, каб усе сербы жылі ў адной дзяржаве. Фактычна гэта канцэпцыя «вялікай Сербіі» амаль не адрозніваецца ад канцэпцыі «рускага міра».

Узброеныя сілы Харватыі знаходзіліся ў той час у вартым жалю стане, як і армія Украіны ў пачатку 2014 года.

Падчас вайны Харватыя ў абыход эмбарга ААН на пастаўку ўзбраенняў нелегальна імпартавала зброю. Улады вымушаныя былі займацца кантрабандай. У падобнай сітуацыі зараз знаходзіцца і Украіна. Эмбарга на продаж зброі ва Украіну адсутнічае, аднак яно дзейнічае негалосна.

Праз месяц пасля абвяшчэння Харватыяй незалежнасці каля 30% тэрыторыі краіны знаходзілася пад кантролем сербаў.

На тэрыторыях, якія кантраляваліся сербамі, у канцы 1991 года была абвешчана Рэспубліка Сербская Краіна.

Гэтую дзяржаву ніхто не прызнаў, нават Саюзная Рэспубліка Югаславія. І фармальна ні Харватыя, ні Сербія адна адной вайны не аб'яўлялі. Гэта вельмі нагадвае цяперашнія расейска-ўкраінскія адносіны, калі краіны не знаходзяцца ў стане вайны. І Расея нават не пайшла на прызнанне марыянетачных ДНР і ЛНР. «Ні вайны, ні міра». Аднак менавіта Расея справакавала гэты канфлікт з дапамогай прапаганды ў СМІ і пастаўкі ўзбраення прарасейскім сепаратыстам.

Сербія, якая фармальна не знаходзілася ў стане вайны з Харватыяй, з дапамогай дзяржаўных медыя актыўна вербавала наймітаў для арміі Сербскай Краіны і распальвала антыхарвацкія настроі. Харвацкія сербы баяліся адраджэння ў Харватыі фашызму і прыходу да ўлады ультраправых «усташоў». У сваю чаргу, улады Харватыі лічылі гэтыя асцярогі безгрунтоўнымі. Тэрыторыі, занятыя Сербскай Краінай, харвацкія ўлады лічылі акупаванымі і імкнуліся аднавіць на іх канстытуцыйны парадак. Усё гэта вельмі нагадвае асцярогі шматлікіх жыхароў паўднёва-ўсходняй Украіны, што да ўлады могуць прыйсці ультраправыя «бандэраўцы», якія яны атаясамляюць з нацыстамі.



Рэспубліка Сербская Краіна цалкам залежала ад Югаславіі. Бялград фармаваў 90% яе бюджэту.

На тэрыторыі Сербіі знаходзіліся лагеры для харвацкіх ваеннапалонных. Югаслаўскія СМІ часта скажалі рэальную інфармацыю пра падзеі ў Харватыі. Улады Сербіі спрабавалі паказаць канфлікт як грамадзянскі, у той час як Харватыя расцэньвала гэта як «сербскую агрэсію».

Гэтая вайна прайшла праз розныя этапы: актыўныя фазы змяняліся перамір'ем. Улады Харватыі заняліся стварэннем новай і баяздольнай арміі. Новая армія стваралася з дапамогай замежных ваенных інструктараў і прыватных ваенных прадпрыемстваў.

У гэты час у Югаславіі, супраць якой былі ўведзены міжнародныя санкцыі, пачаліся сур'ёзныя эканамічныя праблемы.

Харватыя здолела мабілізаваць амаль 200 тысяч чалавек. Гэта вельмі вялікая лічба для 4-мільённай краіны (гэта як калі б сёння Украіна мабілізавала 2-мільённае войска). Новыя элітныя часткі паказалі сябе з лепшага боку.

У 1995 годзе скаліся ўмовы, калі Харватыя здолела аднавіць сваю тэрытарыяльную цэласнасць. Ключавымі аперацыямі былі «Маланка» і «Бура», калі Сербская Краіна была ліквідавана на працягу чатырох дзён.

Пасля гэтых аперацый былі падпісаны мірныя пагадненні.

Нягледзячы на падабенствы, канфлікты ва Украіне і Харватыі маюць і адрозненні. У Харватыі канфлікт быў этнічны. А ва Украіне надаць канфлікту этнічную афарбоўку спрабавала толькі Расея (як паўстанне «прыгнечаных расейскамоўных» жыхароў супраць «бандэраўскай Украіны»). І Югаславія, у адрозненне ад Расеі, не валодала ядзернай зброяй.

Аднак сама логіка канфлікту і знешнія абставіны шмат у чым супадалі. І на аснове харвацка-сербскага канфлікту Украіна можа пераняць харвацкі досвед і зрабіць пэўныя высновы.

Нават у выніку паспяховых рэформ ва Украіне, стварэння новай баяздольнай арміі, канфлікт не вырашыцца ў хуткім часе.

Калі казаць пра прымірэнне Украіны і Расеі, то яно тэарэтычна магчыма. Гэта паказвае гісторыя стасункаў Сербіі і Харватыі.

Пасля вайны краіны наладзілі дыпламатычныя адносіны. У пачатку 2000-х, пасля змены ўлады ў Сербіі, паміж Сербіяй і Харватыяй наладзіліся партнёрскія адносіны. Сербія знаходзіцца зараз у працэсе еўраінтэграцыі, а Харватыя ўжо стала сябрам ЕС.

Залежыць толькі ад Украіны, ці зможа яна вырашыць канфлікт на Данбасе на сваю карысць, выкарыстоўваючы досвед Харватыі па рэфармаванні ўзброеных сіл.

# Дукшта

Піша Зянон.



А быў у нас такі млынар Казюк Дукшта. Пасля вайны ён адбудаваўся ў цэнтры мястэчка і, памятаю, заўсёды хадзіў на працу ў млын гародамі непадалёк ад нашага дому прасёлачнай дарожкай. Млын быў велізарны, на чатыры паверхі і на чатыры велізарныя, метраў па 12 у дыяметры, колы. Будынак быў абабіты шалёўкай і пакрыты гонтай, стаяў на востраве пасярод Гаўі. Там жа, на востраве, стаяла велізарная крытая гонтай павець, куды заязджалі з вазамі і навязвалі коней. З двух бакоў быў мост з плацінай і застаўкамі, якія падымалі, калі было зашмат вады, і тады Гаўя з шумам імчала па драўляных падзенях і спадала вадаспадам у сваё рэчышча. Тады драбнейшую рыбу з глыбіні вадой выганяла далей на доўгі пясчаны брод, з чаго карысталіся заўзятыя рыбакі і аматары павудзіць.

Памятаю адзін такі выпадак у маленстве, калі быў спуск вады, і я прыбег з сваёй крывой вудачкай (вудзільна з арэхавай ляшчыны) і вудай з конскага воласу. Рыбакоў (старэйшых хлопцаў, дзядзькоў) было асобаў з дваццаць, і час ад часу нехта выцягваў то кялба, то верхаводку.

Мая лоўля, аднак, выглядала інакш і заключалася ў тым, што я закідаў вуду і тут жа выцягваў кялба. Шморгаў аднаго за адным. На мяне коса пазіралі, дзядзькі пасмейваліся з малога (мне было гадоў дзесяць-адзінаццаць), станавіліся на маё месца, а я на іхняе. Але ў іх не бралася, а я цягнуў аднаго за адным. Каля мяне сабралася куча разявакаў, вохкалі, ахалі, як заўзятары на футболе, рагаталі, калі дзядзькі нерваваліся. Неўзабаве я налавіў цэлы бітончык і пабег дадому парадаваць маці, праводжаны гулам здзіўлення і адабрэння.

На рыбе, ведаеце, як з дзеўкамі: каму шанцуе, каму не, каму самыя плывуць. Я не ведаў тады, чаму ў мяне рыба бралася, а ў іншых — не. Але дасведчаны рыбак, наш сусед Франук Лаўрэль, мне растлумачыў дасканала: усе лавілі на жылку, якую дасталі (такія ж бо спрытныя) хто ў Лідзе, хто ў Вільні, а я, малы, на конскі волас (адкуль у мяне тая жылка-раскоша). Рыба чуе пах і пабойваецца ненатуральнай жылкі, а конскі хвост яе не пужае, вось яна і чапілася на мой кручок.

Дзядзька Франук, бачачы маю схільнасць да рыбы, мяне запаважаў, як дарослага. Калі спаткае, то абавязкова спыніцца і пагаворыць пра рыбу.

Матруна (прыток Гаўі) працякае метраў за 60–70 ад нашага дому. Вада ў ёй была чыстая, крынічная і сцюдзёная. Тыя, што жылі ля Матруны, і студняў не капалі. З Матруны ваду бралі. І яшчэ бляханы з малаком у ваду ставілі — такая яна халодная была, і сепарацыя ішла хутка. А тут табе і смятана, і сыр, і тварог.

Але галоўнае ў Матруне — гэта рыба. На ўсім працягу вадзіліся странгі пад карчамі і лёхамі. Як сонечны дзень, выходзілі грэцца на струмень ды на плёсы. Толькі падышоў, а яны стралой пад карчы.

Вадзіліся яшчэ сліжы пад каменнем. Ну, і былі маляўкі ды калюшкі, якіх ніхто не лавіў і за рыбу не лічыў.

Летам я ўставаў у маленстве а 6–7-й гадзіне, браў кароткую вудачку, нанізваў на вялікі падвойны кручок некалькі чарвякоў, паўзком ціхенька падпаўзаў да рэчкі, спускаў вуду на яме пад корч, дзе сядзелі странгі, і асцярожна адпаўзаў. Праз хвілін 15–20 зноў падпаўзаў і бачыў, што паплавок зацягнуты ажно пад лёх. Тут сэрца маё аж застукае. Хвалюючы момант. Р-раз! Вудзільна выгінаецца, стронг у вадзе лапоча, а я яго на бераг — і мой.

Больш за аднаго ніколі не лавіў. Трэба ж было і на заўтра пакінуць. Ды й бабуля, бывала, на раніцы кажа:

– І што ты, унучак, на сняданне будзеш есці? Можа, пайшоў бы странга злавіў.

Я ішоў і лавіў. Тут жа, побач, амаль пад ганкам. Ды і рэчка гэтая, лічы, што наша (так я яе ўспрымаў).

А дзядзька Лаўрэль, бывае, ідзе каля рэчкі і пытае:

– Ловіш?

– Странга лаўлю, — кажу я.

Дзядзька Лаўрэль сядаў на траву і пачынаў ціхую (каб не спалохаць странгоў) гаворку пра рыбу са мной, малым, як з дарослым.

Лаўрэляў было ў Суботніках трох братоў: Адварды, Ляўнарды і Франук. Адварды, Ляўнарды мелі вялікія сады і былі апантаныя садаводы. Каго ні спаткаюць — пачнуць гаворку пра сад. Гаварыць пра сады любілі, а Франук — пра рыбу. Франук трымаў дзве лодкі па абодва бакі млына (на ставе і на рэчышчы), лавіў у асноўным трыгубіцай буйную рыбу (брадніка не прызнаваў). Лавіў так: ставіў трыгубіцу, адгароджваў ёй кавалак рэчкі, потым адплываў на лодцы далей і доўгім калом пачынаў бухаць глыбока ў ваду, пужаў рыбу, каб тая ўцякала ў бок сеткі.

Бывала, што заблытвалася і невялікая рыбка, асабліва акунькі. Лаўрэль іх выкідаў у рэчку. Малой рыбы не браў ніколі.

Жонка яго была вельмі гаварлівая; колькасць словаў, якія яна выпускала ў мінуту, была велізарная. І калі яна бачыла, як муж выкідае малую рыбу, то прапускная здольнасць яе мовы павялічвалася да ўзроўню беспярапыннага абуранага стракатання. У гэты момант у цётцы развівалася скваннасць, і, вядома ж, яна лічыла ў гэты час свайго Франука за дурня.

З іхным сынам Казікам мы крыху сябравалі, і аднойчы дзядзька Лаўрэль узяў нас дваіх у лодку на рыбу. На носе сядзела Лаўрэліха, мы з Казікам пасярэдзіне, а ў канцы дзядзька Лаўрэль правіў лодкай. Пачалі вымаць сетку. Рыбы набілася ніштавата: акуні, плоткі, нават пару шчупакоў. Лаўрэль скінуў вялікую рыбу ў мяшок і пачаў выкідаць малую назад у рэку. І тут пачалося. Суцэльная кулямётная чарга. А Лаўрэль пасмейваецца сабе і драбязу выкідае.

– Ну, а гэта во нашто выкідаць? — закрычала Лаўрэліха, паказваючы на добрага такі акунька. — Дай сюды! Дай сюды, кажу!

– Хай расце! — кажа Лаўрэль і хоча кінуць рыбу ў рэчку.

– Ты што? Халера! Здурэў!

З гэтымі словамі Лаўрэліха кінулася да Франука, каб адабраць акуня. Той выкідае рыбу ў ваду, а Лаўрэліха з попрыску скача за акунём у рэчку, наважваючыся злавіць. Гук быў такі: «чыбулдыы-ых!» Сукенка Лаўрэліхі надзьмулася, як парасон, потым пайшлі бурбалкі, і баба пачала тапіцца, малоцячы, як сабака, рукамі па вадзе. А дзядзька Франук стаіць у лодцы і назірае.

– Франук! — а крычыць Лаўрэліха. — Таплюся, ё. т. м., чаго стаіш?

Лаўрэль падаў ёй канец кала, якім ганяў рыбу. Лаўрэліха ўчапілася і пачала чаперыцца ў лодку.

– Чакай, перакуліш! — крычыць Лаўрэль.

Падплылі да берага. Лаўрэліха залезла ў лодку і пачала лаяць Франука, што праз яго яна во, уся намачылася.

– Нічога, высахнеш, — адказвае Лаўрэль.

Але я тут не пра рыбу хацеў казаць. Вернемся да Дукшты. Млынароў у млыне было чатырох ці нават пяцёх. У тым ліку і наш далекаваты сусед Віктусь Тучкоўскі («Адасюк», бацьку звалі Адасем).

Як і ўсе млынары, ён хадзіў абсыпаны мукой, маленькі, вёрткі, з шляхецкімі вусамі і вясёлай усмешкай, гаварыў тэнаркам і хуценька, нібы тарахцеў, і заўсёды пра нешта смешнае, і сам першы смяяўся.

Побач з млынам на «Вулачцы» стаяў вялізны драўляны дом тыпу панскай афіцыны, пакрыты чырвонай глінянай дахоўкай. Гэта быў дом для загадчыка млына. Ён там і жыў з сям'ёй, нібы ксёндз у плябані.

Памятаю, хадзіў такі насуплены ў зашпіленым сталінскім кіцелі і ні з кім не гаварыў, бо мала што разумеў па-беларуску. Прыслалі аднекуль з усходу.

Казюк Дукшта быў чалавек-волат, пад два метры ростам, хадзіў, гаварыў, рабіў не спяшаючы. Меў дзвюх прыгожых дачок — Яню і Ядзю, і малога сына. Дакладней, двух сыноў. Але старэйшы, Ян, не быў яго родным сынам.

А гісторыя была такой. Калі ў 1941-м прыйшлі немцы, то каля вёскі Шаркуці (тры кіламетры ад Суботнікаў) нейкі паўгловак стрэліў па немцу і забіў. З мясцовых гэтага ніхто не мог зрабіць. Хутчэй за ўсё, тое зрабіў нехта з бадзяжных савецкіх салдатаў, якія, ратуючыся, разбегліся па лясах і дарогах. Але немцы не разбіраліся, акружылі вёску, сагналі ўсіх вяскоўцаў у гумно і спалілі разам з вёскай. Мала хто ацалеў. Сярод іх — двухгадовы хлопчык Янка, які застаўся круглым сіратой. Вось Казюк Дукшта з жонкай зжаліліся над дзіцем і ўзялі яго ў сваю сям'ю, усынавілі.

Янка вырабіўся ў добрага хлопца з прыроджанай інтэлігентнасцю, лексіка яго была чыстай, без вульгарных слоў і грубага тону. Калі моладзь летам купалася ля млына на шырокім разводдзі, то Янка плаваў асобна, гэтак далікатна, каб не намачыць сваю падстрыжаную пад «польку» шавялюру. Хлопцы кпілі з ягонай «гжэчнасці», лавілі ў вадзе і спецыяльна «тапілі», каб «фрызура» намокла. Потым рагаталі ўсе разам. Янка таксама. Гумару ў яго хапала.

Потым Янка вырас, стаў пазіраць на дзевак, што праўда, нічога ў яго з дзяўчатамі не клеілася, але тым не менш ён паступіў вучыцца ў медінстытут і неўзабаве, яшчэ студэнтам, ажаніўся. У інстытуце ён добра паказаў сябе па прафсаюзнай ды камсамольскай лініях і неўзабаве па сканчэнні вучобы як малады спецыяліст быў прыняты ў кампартыю (у чальцы КПСС). Яго ўзялі інструктарам райкама, потым ён стаў загадчыкам аддзела, потым адным з сакратароў, і пайшло ўсё як на мазаных колах, адчыняліся прывабныя сацыяльныя даляглядзы.

Казюк Дукшта ведаў, што прыёмны сын стаў начальнікам. У пэўнай ступені гэта яго цешыла, што Янка выбіўся ў людзі і стаў не абы-кім. З другога боку, бальшавікоў у Суботніках ніхто не любіў, і Дукшта таксама. Таму сваім Янкам Дукшта нідзе не хваліўся, але гонар за яго меў.

Пасля інстытута Ян доўга (некалькі гадоў) не прыязджаў у Суботнікі. Але вось, нарэшце, пасля доўгай адсутнасці, паведаміў, што прыязджае. Дукшта сабраў усю радню і падрыхтаваў вялікі стол.

Ян прыехаў з жонкай і дзіцем на ўласнай новай светлай «Волзе». Тут мушу патлумачыць. У тыя 60–70-я гады ў СССР мала хто з простых смяротных мог мець машыну вышэйшага класа — «Волгу». Тры машыны было ў СССР: «Волга», сярэдні клас — «Масквіч» і малалітражка «Запарожац». Чарга на куплю гэтых машын сягала да некалькіх дзясяткаў гадоў, хоць каштавалі яны велізарныя грошы, непад'ёмныя для простага чалавека.

Дык вось Янка ўехаў у двор Дукшты на белай «Волзе». У яго ўжо завязаўся ладны такі круглы жываток, рухаўся ён павольна, гаварыў прадумана, па-расейску, але падкрэсліваў сваю даступнасць і адкрытасць, каб здавацца народным з усімі. Дукшту, праўда, не спадабалася, што іхні Янка гаворыць з ім па-расейску, але ён нічога не сказаў.

– Ну, — кажа, — Янку, вадаправоду ў нас пакуль не правялі, дык во над мядніцай памыйся і за стол.

– Да-а, цывілізацыя, папа, впрямь скажем, не аховая, — вымавіў Янка.

– Так, храновая арганізацыя, — кажа Дукшта, не зразумеўшы, — хоць я цябе ругацца і не вучыў.

Селі за стол. Усе віталі Янку, распытвалі, «дзе робіць». Жонка Янкава, з пышнай, дробненькай закручанай кудзеркамі «андуляцыяй», казала, што яна «тоже із деревні», але ў горадзе «лучше, і она не представляла», што адсюль мог выйсці ў свет яе «Ваня».

Нешта Казюка пачало вярэдзіць знутры, сам не ведаў што. Ён пастукаў відэльцам па графіне і сказаў усім наліць. А потым устаў, падняў кілішак і кажа:

– Дарагі Янка, дазволь мне ад нас з маткай прывітаць цябе ў родным доме. Даўно мы цябе не бачылі, але вось ты прыехаў паважаным чалавекам, начальнікам. І мы, скажу табе, вельмі радыя з маткай, што падабралі цябе сіратой, вырасцілі, далі адукацыю і дарогу ў жыццё. Добра, што наша ахвяра не змарнавалася на пуста і ты стаў такім салідным чалавекам. Дык вып'ем жа за тваё шчасце, каб ішоў далёка і не забываўся дарогі да хаты.

Тут трэба было, як за звычаем, выпіць і пачаць закусваць тым, што было на стале. Але Янка, ламаючы правілы, устаў з кілішкам ды пачаў дзякаваць Казюку за добрыя словы. А потым і кажа:

– Конечно, спасібо, папа, за добрые пожеланія і за всё, что вы для меня сделалі в жізні. Должен только добавіть і сказать о вещах совершенно очевідных. Ведь еслі бы не советская власть, не получіл бы я ні образованія, ні перспектівы в жізні. Возможно, сідел бы здесь, пас скот ілі піл водку, как бывает, к сожаленію, на селе. В сущності, дорогіе мої землякі, мы должны всегда об этом помніть: в какой передовой стране і в какое счастлівое время мы жівем. Раньше такое бы было немыслімо. Поэтому дело не во мне і не в обстоятельствах, моей заслугі здесь нет. Советская власть нам всем дала возможность выбора путі і честной работы на благо всех. Поэтому разрешите прісовокупіть к пожеланію папы так же і мой тост і выпіть за нашу действітельность, в которой жівем, і за ідею, что озаріла нам жизнь.

Запанавала цішыня. Янка, усцешаны сваёй добрай прамовай, кульнуў чарку, сеў і ўзяўся за відэлец. Але ніхто не піў.

– Во, — патлумачыла напаўголасу ўсім, хто не зразумеў, Франя Рапацкая (Дзежачка), — кажа, што яго Савет вывучыў.

– А-яё-я-ёй! — праспяваў у вусы Віктусь Адасюк, гледзячы ў кілішак.

Госці пачалі перашэптвацца, пераглядацца, закруцілі галовамі.

– Дык кажаш не я, а Савет табе ўсё даў? — басам пратрубіў Дукшта.

– Нет, папа, конечно же, вы. Но советская власть создала условія для реалізаціі... — пачаў быў Янка.

– Вон з хаты! — прыцішыў голас Дукшта. — Прэч пайшоў!

– Нет, папа, вы меня не так поняли, я не протів...

– Сядай у машыну і едзь, адкуль прыехаў. Зараз жа! Начаваць тут не будзеш.

Дукшта выйшаў з-за стала, у сенях узяў шапку, надзеў і пайшоў сабе праз гароды ўніз, да Матруны, прыхапіўшы граблі сена варочаць. Хоць быў ужо вечар, сонца якраз заходзіла, і не час быў на тое сена, што ляжала ў валках, чакаючы раніцы.

Але Дукшта рашыў цяпер зрабіць і заўтрашнюю работу. Карова шмат значыла для сельскага чалавека пры калгасна-саўгасным ладзе. Так што корм для жывёлы — справа першасная. Усё астатняе — так сабе, па чарзе зробіцца. Восенню бульбу скапаць, гарод выбраць, брыкет ды дровы завезці. І так і цягнецца, пакуль жывы і здароўе дазваляе.

Янку больш у Суботніках не бачылі. Дзе ён, што ён, і сам Казюк не ведаў. Дый не цікавіўся. Можа, дзе палез угару. Але неўзабаве і Савет разваліўся, і бальшавікі выпарыліся. Але гэта ўжо, як Дукшта памёр. А Янка?.. Хто яго ведае. Можа, дзе яшчэ і сядзіць на пасадзе такі «Ваня». Самы ж бо на яго час.

**Чытайце: Беларус: літаратурны альманах беларускіх пісьменнікаў замежжа, 2015.**

**Чарнаскуры беларус адзначыў Вадохрышча ў палонцы. Мінск, 19 студзеня, Сляпянка.**







**Hyundai з такім вось беларускім арнаментам і знакамітым паролем паўстанцаў Каліноўскага «Каго любіш? Люблю Беларусь» сустрэўся карэспандэнту «Нашай Нівы» на мінскай вуліцы.**



**Шматразовы чэмпіён свету па гіравым спорце і рэкардсмен Кнігі рэкордаў Гінэса Вячаслаў Харанека ўстанавіў новы сусветны рэкорд. Выступленне беларускага спартсмена прайшло ў Камандна-інжынерным інстытуце МНС. Вячаслаў Харанека на працягу гадзіны выціснуў 1410 разоў 24-кілаграмовую гіру са становішча лежачы адной рукой напераменку. Папярэдні рэкорд у гэтым практыкаванні складаў 1200 паўтораў.**




**Культавы амерыканскі кінаакцёр і экс-губернатар Каліфорніі выклаў у сацсеткі фота, на якім ён — у ролі бяздомнага каля помніка сабе ж. «Часы змяніліся», — напісаў Арнольд Шварцэнегер пад здымкам.**



**Царкву ў выглядзе крыштальнага туфліка пабудавалі на акіянскім беразе на паўднёвым захадзе вострава Тайвань. Будынак з 320 панэляў блакітнага шкла, вышынёй 16 метраў і коштам 23 мільёны даляраў, адчыніцца для публікі 8 лютага, у Новы год па кітайскім календары.**



## Анекдоты і жарты

* * *

– А я ўчора дома заначку знайшоў.

– Міністр эканомікі, а ў вас ёсць іншыя прапановы па аздараўленні эканомікі?

* * *

– Дзе найлепей, выконваючы распараджэнне Лукашэнкі, ставіць ваенна-палявыя кухні?

— Каля абменнікаў.

* * *

Лічыце, што Вы нікому не патрэбныя? А паспрабуйце легчы спаць днём. Вам патэлефануюць усе. Нават тыя, з кім вы не знаёмыя.

* * *

Калі вам трэба выгаварыцца, падзяліцеся з мужам. Ён нікому не раскажа, бо не будзе слухаць.

* * *

– Тата, чаму мы так дрэнна жывём?

– Нафта па $29.

– А раней колькі каштавала?

– $110.

– Гэта значыць, раней мы добра жылі?

– Нууу...

* * *

Чаму на ўроках працы дзяўчынак вучаць шыць спадніцы і фартухі, вучыце адразу: цвікі забіваць, крэслы рамантаваць, лямпачкі ўкручваць, санвузел мяняць — гэта хаця б спатрэбіцца!

* * *

Муж купіў мне электрашокер, сабе — газавы пісталет. Паўгода ўжо не скандалім — баімся... удваіх...

## «НН» сто гадоў з вамі

**Радашковічы. Вілейскі павет.** Гадоў пяць задумалі колькі добрых людзей дабіцца таго, каб адкрыць у Радашковічах гарадское вучылішча. Дабраліся аж да міністра народнай асветы Зенгера і гэтым спосабам выкруціліся ад пісання пуда папераў у вокруг. Мяшчане нават зрабілі бунт, каб дабіцца ад гарадской думы грошай 500 рублёў на кватэру вучылішча. Горад даў найлепшы пляц, памешчык Снітка даў мураваны дом з пляцам. Вучылішча адкрылі. Цяпер ужо ёсць чатыры класы. Усе жыцелі як бы выняньчылі гэту школу.

**«НН». №3. 1911.**

**Забароненыя рок-музыкі пачалі сезон.** У мінскіх клубах выступілі «Нейра Дзюбель» і «Палац». Ва ўмовах поўнай канспірацыі сыграе N.R.M. Інфармацыя пра канцэрты распаўсюджваецца выключна праз інтэрнэт і эсэмэскі. Месца выступу называецца пры сустрэчы, калі арганізатар падпольнай імпрэзы перадае квіток гледачу. Забароненыя музыкі знайшлі спосаб супрацьстаяць гэтай навале. Як у брэжнеўскія часы.

**«НН». №3. 2006.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Тацяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 19.01.2016.
Замова №14.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

